 






# свабода

www.svaboda.com
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

№57 (284) 28 чэрвеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478


# Купалаўскія даты

*Напрыканцы чэрвеня і на пачатку ліпеня з розніцай у паўтара тыдня ў беларускім календары – дзве даты, звязаныя з класікам нашае літаратуры Янкам Купалам. Адна – дзень смерці (28 чэрвеня), другая – нараджэння (7 ліпеня).*



Янка Купала пайшоў з жыцця ў 1942 годзе. Здарылася гэта ў расійскай сталіцы, у тамтэйшым гатэлі «Масква», дзе жыў паэт у эвакуацыі падчас вайны. Вядомыя не толькі месца, дзень, але і час Купалавай смерці – вечар, 22.30. Янка Купала загінуў, упаўшы ў лесвічны пралёт з дзесятага паверху гатэлю. Але тое, як гэта здарылася, дагэтуль застаецца загадкай. У даследчыкаў ёсць некалькі версіяў таго, што тады адбылося: ці гэта было самагубства, ці няшчасны выпадак, ці паэта проста забілі, скінуўшы ў пралёт?

Версія пра няшчасны выпадак апавядае, што ўвечары 28 чэрвеня 1942 году Купала выйшаў з пакою на дзесятым паверсе гатэлю «Масква», дзе жыў яшчэ адзін беларускі пісьменнік Міхась Лынькоў, раптам яму стала блага, ён абапёрся на парэнчы, перакуліўся і паляцеў уніз. Версія другая – пра самагубства.

Працяг тэмы на стар. 3

**КАНФІСКАЦЫЯ**

## У пісьменнікаў забралі аўто і халадзільнік

26 чэрвеня судовы выканаўца суду Партызанскага раёну Мінску Іна Барысевіч канфіскавала ў Саюза беларускіх пісьменнікаў (СБП) маёмасць на суму больш як паўтара мільёна рублёў.

У інтэрв'ю БелаПАНу І. Барысевіч паведаміла, што канфіскацыя маёмасці праведзена на падставе рашэння суддзі Партызанскага раёну Юрыя Усіка ад 26 сакавіка 2002 году аб спагнанні заробатнай платы з СБП на карысць былога бухгалтара гэтага грамадскага аб'яднання. Паводле яе словаў, канфіскаваны камп'ютэры «Селерон» і «Дайнова», халадзільнік «Мінск-126» і аўтамабіль «ВАЗ-21063». Яны перададзены для рэалізацыі ў сталічную камісійную краму «Асіт».

Як адзначыла старшыня СБП Вольга Іпатава, кошт апісанай маёмасці, калі яе ўдасца прадаць, наўрад ці пакрые суму іску былога бухгалтара творчага аб'яднання.

**Марат ГАРАВЫ**

**АБСЛУГОЎВАННЕ**

## «Наши новости» каштуюць 16 тысяч даляраў



**26 чэрвеня ў 20.35 на новым беларускім канале АНТ (Агульнанацыянальнае тэлебачанне) у прамым эфіры выйшаў другі выпуск «*Наших новостей*».**

Паводле інфармацыі прэс-сакратара АНТ Вольгі Сахаравай, уласныя інфармацыйныя выпускі «*Наши новости*» пра важныя падзеі ў жыцці Беларусі будуць выходзіць пасля праграмы «*Время*» з панядзелка па суботу ў 20.35 і ў 19.40 у нядзелю перад праграмай «*Времена*». Працягласць выпускаў – 25 хвілін.

Афармленне студыі *АНТ* абышлося ў 16 тыс. даляраў ЗША.

**ГАНДАЛЬ**

## Барацьба за гіпермаркеты

26 чэрвеня на паседжанні конкурснай камісіі Мінгарвыканкаму разгледжаны праекты чатырох фірм, якія прэтэндуюць на права асваення зямельных участкаў, што размешчаны на скрыжаванні праспекта Ракасоўскага і вуліцы Ванеева (плошча да 1,5 га) у Ленінскім раёне і на скрыжаванні вуліц Лабанка і Фёдарава (плошча да 3,5 га) у Фрунзенскім раёне сталіцы. Асноўная ўмова конкурсу – штомесячнае пералічэнне Мінгарвыканкаму не менш як 1 працэнта выручкі ад рэалізацыі тавараў і пазарэалізацыйнай дзейнасці пасля ўводу гандлёвага цэнтру ў эксплуатацыю.

# «Нахімічылі»

*«Значыцца, нахімічылі? Гэта – неправасудны прыгавор!» – так адрэагаваў галоўны рэдактар газеты «Пагоня» Мікола Маркевіч на тлумачэнні суддзі Таццяны Клімавай. Яна вынесла прысуд: яму – 2,5 года абмежавання волі, журналісту Паўлу Мажэйку – 2 гады. Калі яе папрасілі патлумачыць, што гэта такое, яна адказала: у народзе такое пакаранне называюць «хіміяй».*

Так скончыўся судовы працэс супраць двух гродзенскіх журналістаў – рэха апошняй прэзідэнцкай кампаніі, пра якую ўжо паспелі забыцца. Нагодай для следства і крымінальнай справы супраць журналістаў сталі публікацыі ў № № 36 і 37 «Пагоні». Першы павінен быў выйсці напярэдадні выбараў, другі – адразу пасля іх. Тыражы абодвух былі арыштаваны каля друкарскага варштата. Дадрукаваць іх да канца следчыя не дазволілі. Хоць відавочна, што газета ім была патрэбна, і яны наўмысля чакалі, пакуль яе пачнуць друкаваць.

Не выключана, што справа гэтая трапіць у падручнікі, бо ўпершыню быў вынесены прысуд па артыкуле 367, частка II Крымінальна-працэсуальнага кодэксу: «Паклёп на прэзідэнта з абвінавачаннем яго ў здзяйсненні асабліва цяжкіх злачынстваў». А па-другое, яна – выдатны прыклад таго, як, не зважаючы ні на што, можна выканаць пастаўленую задачу: засудзіць.

Працяг тэмы на стар. 4

**ЭКАНОМІКА**

## Сем соцень даўжнікоў

У 16-мільярдным грашовым доўгу, што ўтварыўся з-за неплацяжоў абавязковых адлічэнняў у Мінскім абласным фондзе сацыяльнай абароны, ёсць доля 704 прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў. Гэта прамая пагроза няўчаснай выплаты насельніцтву пенсій і іншых відаў сацыяльнай дапамогі. Каб спаганяць надоімку, «вертыкаль» выкарыстоўвае адміністрацыйны ціск: усе выканкамы мясцовай улады вызначылі графікі для «штрафнікоў», паводле якіх нават «ляжачыя» прадпрыемствы мусяць браць дадатковыя банкаўскія крэдыты і тым самым яшчэ больш абцяжарваць сваю эканоміку. У найгоршым становішчы з-за гэтага Пухавіцкі, Смалявіцкі, Бярэзінскі і Крупскі раёны.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

## Родныя зніклых без вестак у Маскве

У Маскве родныя зніклых без вестак і пераследаваных уладамі беларускіх грамадзян сустрэліся з кіраўнікамі і прадстаўнікамі фракцый Дзяржаўнай думы Расіі. Зінаіда Ганчар, Ірына Красоўская, Вольга Завадская, Святлана Завадская, Таццяна Леановіч-Клімава, Юлія Чыгір падчас сустрэч у ніжняй палаце абмеркавалі, у прыватнасці, магчымасць правядзення ў Думе слуханняў па праблеме зніклых без вестак беларускіх палітыкаў і журналістаў.

Як паведаміў БелаПАНу першы намеснік кіраўніка фракцыі «*Яблоко*» Сяргей Іваненка, дэпутаты найперш занепакоеныя тым, як дапамагчы жонкам і маці зніклых. «Мы абмяркоўвалі дзве тэмы, з якімі палітычныя лідэры Расіі, «*Яблока*», «Саюзу правых сіл», «Адзінства» і іншых партый і аб'яднанняў маглі б звярнуцца да прэзідэнта Пуціна на сустрэчы, якая адбудзецца 1 ліпеня, – сказаў ён. – Па-першае, мы хочам прапанаваць Аляксандру Лукашэнку правесці расследаванне па фактах знікнення людзей з удзелам расійскіх спецслужбаў на падставе тых дамоўленасцяў, якія існуюць. І другое: мы лічылі б правільным, каб расійскія журналісты мелі магчымасць правесці незалежнае расследаванне».

## Свята ў замку

**Другі рыцарскі фэст у Навагрудку пачынаецца ў суботу.**

Сёлета фестываль прымеркаваны да 750-годдзя каранацыі Міндоўга. На ўдзел у мерапрыемстве паступілі заявы больш як ад 40 клубаў з некалькіх еўрапейскіх краін. «Гваздом» дзённай праграмы мае быць стварэнне групай мастакоў пад кіраўніцтвам Генадзя Лойкі пясчанай скульптуры Міндоўга на троне. Таксама гледачы пабачаць інсцэніроўку каранавання князя. Увечары адбудзецца канцэрт аўтэнтычнай музыкі з удзелам каля 15 калектываў з розных краін Еўропы, сярод якіх «Стары Ольса», *Auri*, *Drolls* і інш.

**Праезд да Навагрудка.** Замовы прымае афіцыйны турагператар Фэсту – кампанія «БелТурЭкспа»: Мінск, пр. Машэрава, 19А, пак. 19, 20, тэлефон: +375 17 223-71-30, 226-95-57; e-mail: messeminsk@open. by.

Запланаваны расклад руху аўтобусаў: выезды з Мінску – са стаянкі на чыгуначным вакзале (д/с «Дружная»): 28 чэрвеня – а 18 гадзіне, прыбыццё ў Навагрудак – а 21 гадзіне; 29 чэрвеня – а 7 гадзіне, прыбыццё ў Навагрудак – а 10 гадзіне.

Выезд з Навагрудка 30 чэрвеня а 17 гадзіне, прыбыццё ў Мінск а 20 гадзіне на чыгуначны вакзал (д/с «Дружная»).

## Недзяржаўнікі не любяць тэніс

Суб'екты гаспадарання недзяржаўнай формы ўласнасці неахвотна адгукаюцца на просьбы аб выдзяленні сродкаў на будаўніцтва ў Мінску адкрытых тэнісных кортаў, першая чарга якіх павінна быць уведзена 1 верасня. Паводле словаў міністра спорту і турызму Беларусі Яўгена Ворсіна, міністэрства разліхала атрымаць 150 млн. рублёў ад 150 суб'ектаў гаспадарання, аднак пакуль паступіла толькі 11 млн. рублёў. Штодзень сума павялічваецца на 500–700 тыс. рублёў.

Я. Ворсін выказаў упэўненасць, што першая чарга тэнісных кортаў будзе ўведзена ў тэрмін: з 26 чэрвеня адкрыта бюджэтнае фінансаванне ў памеры 750 млн. рублёў, да будаўніцтва прыцягнуты канцэрн «Мінскбуд», які мае магутную інфраструктуру.

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**



**1820**

 

САЛІДАРНАСЦЬ

# Пікет ля Адміністрацыі

**25 чэрвеня з 17 да 18 гадзінаў ля будынку Адміністрацыі адбыўся несанкцыянаваны пікет.**



З ладзілі яго актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Людзі з партрэтамі зніклага тэлеаператара Дзмітрыя Завадскага, журналістаў гродзенскай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі, а таксама галоўнага рэдактара газеты «Рабочы» Віктара Івашкевіча, якому пагражае суд за паклёп на прэзідэнта, патрабавалі спыніць пераслед журналістаў незалежных выданняў.

«Мы не выпадкова прыйшлі ў гэтае месца, бо рашэнне аб прысудзе Маркевічу і Мажэйку паходзіла менавіта адсюль і мае выключна палітычны характар», – заявіў лідэр АГП Анатоль Лябедзька.

7 ліпеня, у другую гадавіну знікнення журналіста Дзмітрыя Завадскага, АГП плануе правесці традыцыйны «Ланцуг неабыякавых людзей», які, на думку арганізатараў, павінен стаць шматлюдней акцыяй.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Цыркачы з мінскім дыпломам

Ёсць першы вынік адукацыйнага эксперыменту ў Мінску па падрыхтоўцы у музычным вучылішчы імя Глінкі артыстаў цырку. З 10 студэнтаў, якія вытрымалі шчыльны конкурсны адбор у 1998 годзе, 7 дайшлі да выпускных экзаменаў і 25 чэрвеня атрымалі запаветныя дыпломы: дзве дзяўчыны – па спецыяльнасці клаунады, а юнакі – па спецыяльнасцях ілюзіяністаў, акрабатаў, жанглёраў. Сёлета набору няма. Распрацоўшчыкі праграмы запланавалі перапынак, каб вызначыліся ў працаўладкаванні першыя выпускнікі. Яны спрабуюць атрымаць месца на арэне Белдзяржцырку.

**Галіна БАРАВАЯ**

АБВЯРЖЭННЕ

28 траўня 2001 году НАША СВАБОДА пад назвай «Справа Бандажэўскага спрэс сфабрыкаваная» надрукавала інфармацыю, пададзеную агенцтвам БелаПАН папярэднім днём.

У ім, у прыватнасці, паведамлялася: «25 траўня ваенная калегія Вярхоўнага суду Беларусі выслухала апошняе слова ўсіх, хто абвінавачваецца па крымінальнай справе Гомельскага медінстытуту.

Напрыклад, былы прарэктар па выхаваўчай рабоце ВНУ Уладзімір Раўкоў у сваім выступленні некалькі разоў звяртаўся да прафесара Юрыя Бандажэўскага з просьбай дараваць яму. «Прашу прабачэння ў вас за тое, што я быў вымушаны вас абгаварыць», – сказаў Раўкоў, звяртаючыся да свайго былога начальніка.

Таксама ў гэтай інфармацыі, у прыватнасці, пісалася: «Абвінавачаныя члены прадметных экзаменацыйных камісіяў Ніна Шамочак і Наталля Фомчанка ў сваім апошнім слове прызналіся, што яны супрацоўнічалі са следствам, дапамагаючы следчым падтасоўваць патрэбную інфармацыю супраць Бандажэўскага і Раўкова ў абмен на вызваленне з-пад варты і прызначэнне мяккага пакарання».

Як паказала праведзеная рэспубліканскай пракуратурай праверка, абвінавачаныя Шамічак Н.І. і Фомчанка Н.Е. ні падчас службовага паседжання, ні ў сваім апошнім слове не згадвалі пра нейкае супрацоўніцтва са следствам, а тым больш пра падтасоўванне патрэбнай інфармацыі супраць іншых абвінавачаных па гэтай справе.

Агенцтва БелаПан распаўсюдзіла сваё абвяржэнне адносна пададзенага 25 траўня мінулага году матэрыялу.

Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў, што надрукавала недакладную інфармацыю.

ЮБІЛЕІ

# Бронзавы князь на высокім пастаменце

**У Барысаве пастаўлены помнік заснавальніку гораду.**

Камянямі старога гарадскога бруку выкладзены сцежкі да новага помніка на плошчы Уваскрасенскага сабору ў Барысаве. На гранітным пастаменце тут усталявана бронзавая скульптура князя Барыса, старэйшага з сыноў князя Усяслава Чарадзея. Паводле старажытных летапісаў, Барыс-Рагвалод у 1102 годзе хадзіў на яцвягаў і засяліў палоннымі новазбудаваны Барысаў. Вядомы беларускі скульптар, прафесар Акадэміі мастацтваў Анатоль Арцімовіч увасобіў заснавальніка гораду Барыса ў высокай постаці з мячом у правай руцэ, які ўкладзены ў ножны і ўзняты дзяржальнам угару – быццам бы ахоўны крыж трымае князь. «Тут быць гораду Барыса!» – вырашыў князь; на гэтую справу яго натхняе анёл, чыя фігурка прымацілася на плячы статуі. Урачыстае адкрыццё помніка ў старой частцы Барысава адбудзецца ў суботу, 29 чэрвеня, у тэатралізаванай дзеі з напамінкамі пра тое, што адбывалася ў XII стагоддзі.

**Вячаслаў КАЛІНОЎСКІ**

# Акадэмік Мясніковіч штурхае адукацыю

Пра рэформы ў галіне навукі і адукацыі паведамілі на прэс-канферэнцыі прэзідэнт Акадэміі навук Міхаіл Мясніковіч, рэктар БДУ Аляксандр Казулін і першы намеснік міністра адукацыі Аляксандр Жук.

Навукоўцам Акадэміі навук на будучыню адмоўлена ў бюджэтным фінансаванні, і гэта вымушае скіраваць сваю працу на надзённыя праблемы эканомікі. Але ўзнікае небяспека, што навуковыя структуры цалкам пяройдуць на камерцыйную дзейнасць. «Мяне гэта абсалютна не палохае, – кажа Міхаіл Мясніковіч. – Па выніках мінулага году 85% фінансавання акадэміі склалі бюджэтныя ці калябюджэтныя сродкі. Тым часам увесь свет стаіць на шляху, калі бюджэтныя сродкі складаюць каля 30–35% фінансавання. Астатняе навука павінна зарабляць. Калі навуковыя даследаванні будуць купляцца, то для нашай навукі гэта выратаванне». Наконт пашырэння супрацоўніцтва навукі і адукацыі кіраўнікі ведамстваў спасылаліся на той факт, што пад кураторствам навукоўцаў з АН у 2001 г. студэнтамі было выканана 1160 курсавых і 440 дыпломных работ. Акрамя таго, вучоныя НАН выкладаюць амаль ва ўсіх дзяржаўных ВНУ.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

АРХІТЭКТУРА

# Мадэрнізуюць цэнтральны аўтавакзал

Працэс добраўпарадкавання прывакзальнай плошчы Мінску і яе наваколля дабраўся да цэнтральнага аўтавакзалу, што месціцца побач з чыгуначным вакзалам сталіцы.

Зараз яны вельмі кантрастуюць: адзін – навюткі і сучасны, другі – стары і занядбаны. Аднак неўзабаве мадэрнізуюць і аўтавакзал. Ён ператворыцца ў трохпавярховую канструкцыю: на першым паверсе – пляцоўкі, куды будуць прыбываць аўтобусы, на другім – гандлёвыя пункты і ўстановы па аказанні самых розных паслуг, на трэцім – паркінг.

**Кірэй МАНУЙЛА**

СТРАТЫ

# Стыхія «распранула» былога міністра

Шквальны вецер, парывы якога дасягалі 25 метраў у секунду, і лівневы дождж пакінулі на Брэстчыне разбурэнні, на адбудову пасля якіх спатрэбіцца шмат тыдняў. Цяперашнія страты на Брэстчыне ад поўнай гібелі альбо моцнага пашкоджання 10 тысячаў гектараў пасеваў у Драгічынскім, Кобрынскім, Камянецкім і іншых раёнах, ад разваленых пабудоў ацэненыя, паводле папярэдніх падлікаў у МНС, на суму больш як 1 мільярд рублёў.

Пазнейшыя звесткі падвысілі гэтую велічыню ў 2,5 разы. Прыкладам, 1,5 мільярда рублёў прамых выдаткаў на аднаўленне просіць саўгас-камбінат «Белавежскі» Камянецкага раёну. Толькі на свінагадоўчым комплексе гаспадаркі патрабуецца замяніць 25 000 лістоў шыферу. Цяперашні кіраўнік агракамбінату, былы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Юрый Мароз патрапіў у сітуацыю, якая да голага распранула эканоміку састарэлага гіганцкага комплексу. Ход часу паказаў бясплённасць намаганняў кіраўніцтва галіны і дзяржавы трымацца за тэхналогіі, ад якіх адмовіўся ўвесь свет. Кожны наступны удар стыхіі здзекуецца з будынкаў, што перажылі свой век ва ўмовах агрэсіўнага асяроддзя кіслотных выпарэнняў ад натуральных адыходаў тысяч жывёлаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

ПРАДПРЫМАЛЬНІК

# На міні-рынках базар бяспраўя

## Уціск мясцовай улады распальвае настроі гандляроў

***Сенсацыя, як той казаў, павятовага маштабу: у Мар'інай Горцы, што блізка ад усім вядомых Пухавічаў, прадпрымальнікі турнулі з тамтэйшага рынку яго дырэктара.***

Новы начальнік з райспажыўсаюзу на базарнай тэрыторыі за дзіравым плотам, дзе асфальт утаптаны ў лужыны, а падгнілыя павеці пагрозліва рыпяць ад старасці, прапанаваў забыць ранейшыя крыўды і жыць па-новаму. Аднак мінае ўжо трэці тыдзень перадышкі ад чарады ранейшых страйкаў, і абодва бакі – арандадаўцы і карыстальнікі – пачынаюць наязджаць адзін на другога. Прадпрымальнікаў не задавальняе падвышэнне арэнднай платы на 20% і патрабаванне разлічвацца па ёй за поўны месяц наперад, а не па фактычна адпрацаваных дзён. Раённыя чыны ў сваю чаргу прыдзіраюцца да ўтварэння на рынку першаснай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу са 160 чалавек і маюць намер разбурыць гэту грамадскую сілу эканамічнымі рычагамі. Такімі ў іхніх руках выступаюць дадатковыя мясцовыя зборы і падаткі, кантроль за сертыфікацыяй тавару, усё вышэйшая плата за рабочае месца. Пухавіцкі раён – датацыйны, тут зараз практычна не засталося прыбытковых прадпрыемстваў, а фінансавая аблога рынку хоць слаба, але няспынна падсілкоўвае бюджэт жывымі грашыма.

Мясцовая ўлада дазваляе сабе ігнараваць гразь на рынку і нават эканоміць на скарачэнні штату прыбіральшчыцаў, бо колькасць месцаў для гандлю абмежаваная, а гандляроў перабор. 610 індывідуальных прадпрымальнікаў зарэгістраваныя на месцы, а з некаторага часу больш як тры дзясяткі ўзбекаў бязвыезна жывуць у Мар'інай Горцы за кошт продажу тавару, які дастаўляюць ім супляменнікі праз адкрытую мяжу з Расіяй.

У апошнюю дэкаду чэрвеня хвалі пратэсту супраць фінансавага бяспраўя на рынках пракаціліся таксама ў Слоніме, Пінску, Івацэвічах, Лідзе. У Мінску адбыліся сходы прадпрымальнікаў, якія працуюць у гандлёва-выставачным цэнтры «Паркінг», на стадыёне «Трактар», на рынку «Байкальскі» ў Заводскім раёне. 20 чэрвеня ў Гродне 3,5 тысячы гандляроў адмовіліся выкласці свой тавар на паліцы рэчавага рынку «Паўднёвы». Пуставаў і аўтарынак. Гэты ўздым супраціву прыватнікаў адлюстроўвае іхнае нежаданне падпарадкавацца намерам гарадскіх уладаў павысіць грашовыя зборы. Выдаткі за камеру для захоўвання тавару, за гандлёвае месца, плюс фіксаваны падатак і аплата за сертыфікацыю падвысіліся ў сярэднім на 30 працэнтаў. Новая сума, якую трэба будзе заплаціць за месяц, сягае да 190 000 беларускіх рублёў. Гэта ацанілі як рабунак нават тыя, хто ўмее круціцца ў малым бізнесе.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Віктар Івашкевіч: «Гульня скончылася»

*20 чэрвеня пракуратура Першамайскага раёну Мінску выставіла рэдактару газеты «Рабочы» Віктару Івашкевічу абвінавачанне ў замаху на паклёп (артыкул 367 частка 2 Крымінальнага кодэксу) і замаху на абразу прэзідэнта Беларусі (артыкул 368 КК). У выпадку абвінаваўчага прысуду Віктару Івашкевічу пагражае пазбаўленне ці абмежаванне волі тэрмінам да пяці гадоў.*

Крымінальную справу па факце паклёпу на прэзідэнта Беларусі пракуратура ўзбудзіла напрыканцы жніўня 2001 году, і праз 10 месяцаў следства справа нарэшце патрапіла ў Першамайскі суд Мінску. Галоўны рэдактар «Рабочага» Віктар Івашкевіч не лічыць супадзеннем амаль аднасовае прад'яўленне абвінавачання газеце «Рабочы» (20 чэрвеня) і вынясенне прысуду Ленінскім раённым судом Гродна па справе рэдактара зліквідаванай газеты «Пагоня» Міколы Маркевіча і журналіста Паўла Мажэйкі (24 чэрвеня).

В.Івашкевіч адказвае на пытанні НАШАЙ СВАБОДЫ.

**– Як Вы расцэньваеце прысуд сваім гродзенскім калегам: Міколу Маркевічу – 2,5 гады абмежавання волі і Паўлу Мажэйку – 2 гады абмежавання волі?**

– Лукашэнка выконвае паслявыбарчыя абяцанні «разабрацца» з тымі журналістамі, хто занадта «выступаў» падчас выбараў. Гэта тычыцца і журналістаў «Пагоні», і мяне... Добра, што не турма.

**– 20 чэрвеня Віктару Івашкевічу прад'явілі абвінавачанне ў крымінальнай справе, а 24 чэрвеня – абвешчаны прысуд Міколу Маркевічу і Паўлу Мажэйку. Гэта выпадковасць?**



– Доўга заходнікі з усходнікамі цацкаваліся-таргаваліся наконт прызнання або непрызнання дэмакратычнымі прэзідэнцкіх выбараў. Цяпер мы не выконваем сваю функцыю як заложнікі, таму трэба канчаць гэтую справу.

**– Якім быў прадмет торгу і закладнікамі чаго былі журналісты?**

– Торг ішоў адносна таго, прызнае ці не прызнае Захад выбары Лукашэнкі дэмакратычнымі. Супраць журналістаў былі ўзбуджаныя крымінальныя справы, але судоў не было – ішоў торг. Цяпер Захад сказаў: не судзіць, спыніць крымінальны перaслед журналістаў – гэтага мала; прэзідэнт мусіць яшчэ, прынамсі, паказаць, што Беларусь імкнецца да дэмакратызацыі. Тады гульня скончылася, справы – пачаліся.

**– Нагадайце, калі ласка, гісторыю крымінальнага перaследу газеты «Рабочы».**

– 22 жніўня ў прыватную друкарню «Мэджык» быў аддадзены ў друк спецвыпуск газеты «Рабочы», дзе быў вялікі артыкул пад назвай *«Вор должен сидеть в тюрьме!»*. У ім выкладаліся даўно і цалкам вядомыя факты карупцыі ў адміністрацыі прэзідэнта, звязаныя з фондам Эсамбаева, *«Торгэкспо»*, гандлем зброяй. Тым жа днём – заказ быў на 400 тысячаў экзэмпляраў, паспелі надрукаваць толькі 39 тысячаў – тыраж быў арыштаваны, узбуджана крымінальная справа па факце з'яўлення артыкула. Следства цягнулася амаль што год – 10 месяцаў. 20 чэрвеня мне прад'яўлена абвінавачанне ў паклёпе на прэзідэнта, звязаным з асабліва цяжкімі злачынствамі – маецца на ўвазе, што газета абвінаваціла прэзідэнта ў асабліва цяжкіх злачынствах, – і ў абразе прэзідэнта: быў змешчаны калаж, дзе амонаўцы вялі пад рукі чалавека, падобнага да прэзідэнта Лукашэнкі...

**– Такім чынам, Вам прад'яўленыя некалькі абвінавачанняў.**

– Так, але справа ў тым, што паклёп паглынае абразу: у нас не прыплюсоўваюць тэрмін, цяжэйшае злачынства паглынае менш цяжкае. У пятніцу (21 чэрвеня. – **Р.Б.**) з мяне ўзялі падпіску аб нявыездзе, і крымінальную справу перадалі ў суд Першамайскага раёну Мінску.

**– Якія Вашыя прагнозы адносна прысуду?**

– Такія ж, як і ў Маркевіча – абвінавачанне фактычна адно і тое ж. Цяпер Маркевіч збіраецца абскарджваць прысуд, і да жніўня, я думаю, ён будзе гэта рабіць па інстанцыях. А тады ўжо, у жніўні, пачнецца і мой суд. Я думаю, мой суд будзе глядзець, як завершыцца працэс з Маркевічам.

**Гутарыў Рыгор БУЯН**

# Купалаўскія даты

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Пагатоў тут быў прэцэдэнт. У 1930-м, праз некалькі дзён пасля допыту ў ДПУ, дзе ён быў абвінавачаны ў прыналежнасці да міфічнага Саюзу вызвалення Беларусі, Янка Купала спрабаваў зрабіць сабе смерць. Праўда, няўдала: нож увайшоў у правы бок, але неглыбока. Рэальнае пагрозы жыццю паэта не было, і ён досыць хутка акрыяў. Пасля таго няўдалага самагубства быў падобны да пакаяльнага – з прызнаннем палітычных памылак і з заявамі пра адмежаванне ад нацдэмаўшчыны – ліст у газеце «Звязда». Але і гэты ліст, і тое няўдалае самагубства ў 1930-м – гэта ўжо іншая, асобная гісторыя, не менш таямнічая, чымсьці трагічная смерць Янкі Купалы ў 1942-м.

Трэцяя версія стаіць на тым, што Купала пайшоў з жыцця не самахоць і не выпадкова, а гвалтоўна. Прыкласці рукі да гэтага маглі супрацоўнікі спецслужбаў, якія ўвесь час сачылі за Купалам.

Пра гатэль «Масква» сёлета ўзгадваюць не толькі з нагоды 60-годдзя з дня Купалавай смерці. Яшчэ напрыканцы мінулага году чыноўнікі Міністэрства культуры агучылі намер усталяваць у Маскве і Пецярбургу ў звязку з падвойным 120-гадовым юбілеем Янкі Купалы і Якуба Коласа помнікі ў іх гонар. Помнік Купалу спачатку меркавалі паставіць на Кутузаўскім праспекце расійскай сталіцы, цяпер месцам узвядзення помніка называюць Міўскую плошчу. Хоць абсалютна слушна было б, каб помнік Купалу з'явіўся каля гатэлю «Масква» і меў такім чынам лагічную прывязку. Мастацкі конкурс на помнік ужо прайшоў, але калі яго ўсталююць у Маскве – невядома. Наўрад ці раней за восень.

Між тым сёлета купалалюбы могуць адзначыць яшчэ адну круглую дату, звязаную з жыццём і творчасцю паэта: 31 жніўня 1922 году Янка Купала скончыў пісаць п'есу «Тутэйшыя», якую то выкідаюць, то зноў вяртаюць у рэпертуар сучаснага Купалаўскага тэатру.

Адзначэнне юбілею Янкі Купалы, чыя творчасць – літаратурная візітоўка нашай краіны, па ўсім відаць, пройдзе даволі ціпла. Хоць планаў у дзяржавы было багата. Склалі нават афіцыйную праграму па правядзенні адмысловых мерапрыемстваў з гэтай нагоды. Але выканана яна будзе далёка не ўся. Прычына набіла ўжо аскому: не ў традыцыі нашай улады спрыяць нацыянальнай культуры. Дый грошай на тое няма. Карацей, дзяржава не хоча і не можа.

Зрэшты, залішняй пампезнасці, асабліва калі яна «дзеля птушачкі», дзеля нацыянальнай дэкаратыўнасці, і не хочацца. Адказ на пытанне, хто і што для Беларусі Купала (абавязкова ў звязцы з Коласам), большасць беларусаў выдасць на аўтамаце. Як зазубраны яшчэ ў школе ўрок. Вам нават адкажуць, што «Колас – гэта Луцкевіч, а Купала – Міцкевіч, альбо наадварот». Могуць нават прыпомніць, што яны ў адзін год нарадзіліся. А вось з вершаў хіба што пра «мой родны кут» ды «пра пачэсны пасад між народамі» ўспомняць. Пушкіну ды Лермантаву з беларусамі пашанцавала болей...

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Аддайце настаўнікам заробак!

*26 чэрвеня а 17 гадзіне гомельскія сацыял-дэмакраты пікетавалі будынак гарадскога аддзелу і абласнога ўпраўлення адукацыі. Пікет з раздачай адмысловых улётак «Аддайце нашым настаўнікам заробак!» арганізаваны з прычыны нявыплаты педагогам Гомелю грошай за травень і летні водпуск.*

У шэрагах пікетоўцаў былі і асобныя выкладчыкі сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў гораду. Дацэнт універсітэту імя Францішка Скарыны, ён жа і выкладчык сярэдняй школы № 56, Віктар Адзіночанка прыгадаў на пікеце словы Аляксандра Лукашэнкі, які казаў: «Калі страцім настаўніка, то нам капец: будзем хадзіць п'яныя і дурныя».

Міліцыянты Цэнтральнага РАУСу, што прыйшлі наглядаць за пікетоўцамі разам са сваім начальнікам, палкоўнікам Смолікавым, цвердзілі: міліцыі выплачваюць грошы без затрымкі.

Іншая сітуацыя ў асяроддзі настаўнікаў. Улады гораду праз сваю газету «Гомельскія ведамасці» ўжо заклікалі іх да спакою. Паводле звестак аддзелу адукацыі, на пачатак бягучага тыдня гарадскія ўлады не выдаткавалі настаўнікам з бюджэту 1 мільярд 272 мільёны рублёў адпускных грошай.

Не выплачаны поўнасцю педагогам і травеньскі заробак, а гэта – яшчэ звыш 1 мільярда рублёў. Настаўнікі да таго ж засталіся і без чэрвеньскага авансу, які павінны былі выдаць ім яшчэ да 16 чэрвеня.

– Нічога сабе не купляем, толькі кефір і малако п'ем, – сказалі мне пра сваё безграшоўе ў гарадской сярэдняй школе № 60.

Супрацоўніца фінансавага ўпраўлення гарвыканкаму Вольга Малаева, адказная за разлікі са школамі, сцвярджае, што на выплату настаўнікам заробку і адпускных у бюджэце няма грошай. Спадзяванні – на банкаўскую пазыку.

– На гэтым тыдні возьмем пазыку, – кажа Вольга Малаева. – Са старой разлічымся, і будзем браць новую і аддаваць грошы настаўнікам.

У асяродку фінансістаў сістэмы адукацыі ходзяць чуткі, што шмат якія прадпрыемствы, іншыя плацельшчыкі толькі на паперы далі справаздачу пра пералічэнне ў гарадскі бюджэт 6,5 мільярда рублёў падаткаў. На самой справе грошы пайшлі на плітку для рэканструкцыі ходнікаў на гарадскіх вуліцах.

– Такіх звестак у мяне няма, – сцвярджае Вольга Малаева. – У нас проста не паступаюць даходы, і нікуды налева яны не ідуць.

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

**АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА**

***«...практыка даводзіць, што эканамічныя рычагі кіравання народнай гаспадаркай больш плённыя за адміністрацыйныя».***

**Д. Крат, «СБ» № 164**



# «Нахімічылі»

*Закачэнне, пачатак на стар.1*

Намеснік пракурора вобласці выдаў 5 верасня пастанову аб публікацыі ў «Пагоні» за 4 верасня матэрыялаў з паклёпам. Аднак ніякай газеты не было ў прыродзе. У друкарні цягнулі, двое сутак не друкуючы яе. Існавалі толькі плёнкі са змакетаванымі старонкамі 36-га нумару. У пракуратуры, вядома, разумелі, што без рэальных адбіткаў газеты крымінальную справу не зробіш.

Аднак доблесныя работнікі розных роднасных установаў гэтак імпэтна сканфіскавалі газету, што не пакінулі следству сапраўдных доказаў (тое ж самае адбылося потым і з № 37). А следству неабходна было давесці, што газета распаўсюджвалася, што яе чыталі. Давялося кіравацца прынцыпам: на чыім баку ўлада, у таго і рацыя, а значыцца – і закон. Карацей, следству аказалася дастатковым сцвердзіць, што газета была надрукавана. Марна потым адвакаты даказвалі ў судзе, што газета становіцца сродкам масавай інфармацыі толькі пасля таго, як будзе распаўсюджана і трапіць да чытачоў. Органам, напэўна, было дастаткова, што яе чыталі самі следчыя. А хто скажа, што яны – не чытачы? Зрэшты, падчас судовага следства былі знойдзены іншыя «спажыўцы» арыштаваных нумароў.

Дапытаныя ў якасці сведак 12 супрацоўнікаў друкарні сцвердзілі, што не чыталі публікацый арыштаваных нумароў «Пагоні». Але



**Супрацоўнікі міліцыі перакрылі фота- і тэлекарэспандэнтам доступ у будынак Ленінскага раённага суду, дзе ў самай маленькай залі быў абвешчаны прысуд па справе Мікалая Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Гродна, 24 чэрвеня.**

дзве жанчыны, павагаўшыся, сказалі, што зацікавіліся вершыкам «Абяшчаў, абяшчаю, буду абяшчаць». З іх якраз і «выціснулі», што вершык зусім не пра безназоўнага героя (імя і прозвішча якога ў тэксце не пазначана), а пра самога Аляксандра Рыгоравіча. Адвакат Сяргей Цурко мусіў зазначыць: «не ўсведамляючы гэтага, сведка была падведзена следствам да жаданага для следства адказу». Другая – на пытанне, «чаму яна думае, што вершык пра Лукашэнку?», адказала: «Растлумачыць цяжка. Можна лічыць гэта маёй суб'ектыўнай думкай».

Але органам досыць і суб'ектыўных думак. Дзяржаўны абвінаваўца У. Рабаў адкрыта заявіў у судзе, што ў арыштаванай газеты былі «чытачы» – дзве супрацоўніцы друкарні. Газету яны, вядома, не чыталі. Але чыталі вершык. А дзе вершык быў? У газеце! Вось такая логіка пракурора. Сітуацыя, па сутнасці, нагадвае стары анекдот пра славутую люльку, якую тав. Сталін часова «згубіў» ва ўласнай кішэні. І пра тав. Берыю, які адразу патрапіў знайсці вінаватых, якія прызналіся ў крадзяжы і далі пакаранні.

«Кітом», на якім трымалася абвінавачанне, аднак, была інтэрнэт-версія арыштаваных нумароў. Маўляў, газетныя тыражы былі арыштаваны, але ж тыя самыя нумары распаўсюджваліся праз інтэрнэт. На просьбу пракуратуры інфармацыю з сайта «Пагоні» нібыта знялі ў КДБ. На працэсе высветлілася, што зроблена гэта было з вельмі грубымі парушэннямі заканадаўства. Такія доказы не маюць юрыдычнай сілы і не могуць выкарыстоўвацца. Гэта мусіў прызнаць і пракурор. Аднак папрасіў усё адно іх улічыць. Усё роўна як у старым савецкім анекдоце: калі нельга, але вельмі хочацца, то – можна. Дарэчы, і суддзя ў сваім абвінаваўчым прысудзе выкарыстала па сутнасці падобную логіку.

Абарона даводзіла: нават калі матэрыялы сапраўды былі на сайце, дык няма доказаў, што хтосьці іх рэальна чытаў. Як вядома, колькасць наведванняў сайту фіксуецца. Нічога падобнага абвінаваўчы бок суду не прадставіў. Але для суду аказалася дастаткова дапушчэння, што матэрыялы «маглі быць» на сайце і іх хто-небудзь «мог» прачытаць. А значыцца, «магло быць» і распаўсюджванне публікацый з паклёпам.

Дапусцім, што ў публікацыях сапраўды змяшчаліся абвінавачанні супраць Лукашэнкі, паклёпніцкія, на думку следства. Такое дапушчэнне зрабіў С. Цурко, каб запытацца: «Дзе дакумент праверкі выкладзеных у артыкуле фактаў?.. Такога дакументу, які б абвяргаў абвінавачанне ці пацвярджаў яго, у матэрыялах справы няма». Суддзя Клімава ў абвінаваўчым акце «адфутболіла» гэты аргумент. Яна сказала прыблізна наступнае: Лукашэнка не быў абвінавачаны ў цяжкіх злачынствах, суду над ім не было і прысуду – таксама. А значыцца, у журналістаў не было падставы для абвінавачанняў супраць Лукашэнкі. Вось так.

Дзяржаўны абвінаваўца У. Рабаў жадаў, каб М. Маркевіча і П. Мажэйку зняволілі на 2,5 і на 2 гады адпаведна. Суддзя Т. Клімава гэтыя тэрміны захавала, але пакаранне змякчыла: замест зняволення ў калоніі агульнага рэжыму пакарала абмежаваннем волі ў папраўчых установах адкрытага тыпу – пры спецкамендатуры. Такім чынам, не спраўдзіліся прагнозы ні песімістаў, якія не маюць ілюзій наконт сучаснага беларускага «правасуддзя», ні аптымістаў, якія ўсё ж спадзяваліся на апраўдальны прысуд.

На сайце «Пагоні» таксама можна было паўдзельнічаць у прагназаванні пакарання журналістам. Удзел у галасаванні ўзялі 158 чалавек. Большасць – 91 чалавек – лічылі, што журналісты атрымаюць тэрмін зняволення ад 1 да 5 гадоў. 30 чалавек спадзяваліся на апраўданне абвінавачаных.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## *Узнагароды за адданасць*

Не паспеў скончыцца скандальны працэс супраць журналістаў «Пагоні», а ягоныя актыўныя ўдзельнікі ўжо атрымалі ўзнагароды.

Прэзідэнцкі ўказ № 327 за гэты год устанаўлівае пракурору Гродзенскай вобласці Васілю Літвінаву класны чын дзяржаўнага саветніка трэцяга класа. Відавочна, што на падвышэнне пракурор пайшоў пасля таго, як ягонае ведамства спачатку адміністрацыйным шляхам закрыла «Пагоню», а потым яшчэ за тое ж самае засудзіла Міколу Маркевіча і Паўла Мажэйку па крымінальным артыкуле.

Сваю ўзнагароду атрымала і суддзя, якая выносіла прысуд журналістам, – Таццяна Клімава. Як паведаміла расійская газета «*Известия*», яе прызначылі намеснікам старшыні суду Кастрычніцкага раёну Гродна.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Пацярпелі з газетай «Пагоня»

## *Дзяржструктуры штурхаюць людзей у дысідэнты*

***Новы сябра далучыўся да шэрагаў партыі КХП БНФ у Гродне: 35-гадовы Раман Юргель, выпускнік адной з маскоўскіх ВНУ, раней беспартыйны, займаў адказную пасаду на Гарадзенскім мясакамбінаце. Свой свядомы выбар на карысць палітычнага радыкалізму ён зрабіў у перыяд ганебнага судзілішча над газетай «Пагоня».***

У кастрычніку 2001 году Раман Юргель упершыню пераступіў парог рэдакцыі «Пагоні». У гэты час ён дамагаўся справядлівасці па вытворчым канфлікце на сваім прадпрыемстве і не сустракаў у гарадзенскай пракуратуры, судзе і дзяржаўных газетах асаблівай гатоўнасці падтрымаць ягоныя прэтэнзіі да кіраўніцтва мясакамбіната. Уплывовая адміністрацыя прыбытковага прадпрыемства нібыта адсочвала шляхі праўдашукальніка, і «тэлефоннае права» кожны раз спрацоўвала не на карысць Юргеля. «Пагоню» таксама загадзя папярэдзілі «не рабіць з чутак сенсацыю», але ад незнаёмага наведніка тут абыякава не адмахнуліся. Рэдактар Мікола Маркевіч даручыў рэпарцёру Паўлу Мажэйку правесці журналісцкае расследаванне. Яго вынікам стаўся артыкул «Смачна есці?..» у нумары ад 18.10.2001 г. Газетны тэкст распавядаў пра сумленны ўчынак маладой працаўніцы мясакамбіната. «Тысячы гарадзенцаў выратавала ад эпідэміі дызентэрыі Святлана Рудкоўская, – пісаў П. Мажэйка.– Аднак кіраўніцтва прадпрыемства палічыла гэта здрадай і вымусіла жанчыну звольніцца з працы».

У святле нядаўняй панікі мясцовых уладаў з-за масавых атручэнняў больш як 500 чалавек заражанай кісламалочнай прадукцыяй у Салігорску, Любані, Слуцку на Міншчыне і Светлагорску ў Гомельскай вобласці лёгка зразумець, чаго баяліся ў Гродне год таму. Як правіла, на прадпрыемствах харчовай прамысловасці работнікі ўсімі сродкамі імкнуцца ўтойваць факты інфекцыйных захворванняў. Адміністрацыя, высачыўшы ненадзейнага, накіроўвае яго да лекараў ананімна. Санітарна-эпідэміялагічная служба абавязкова нападзе з праверкамі. У Салігорску, як высвятляецца, так доўга страхаваліся ад непажаданых стрэсаў на малаказаводзе, што ажно 5 расфасоўшчыцаў тут хварэлі і працавалі адначасова…

16 траўня 2001 году расфасоўшчыца мясапрадуктаў аддзялення паўфабрыкатаў Гродзенскага мясакамбіната Святлана Рудкоўская парушыла існуючыя ў галіне няпісаныя правілы паводзінаў пры сустрэчы з дактарамі. У абласным інфекцыйным шпіталі, куды яе даставіла «хуткая дапамога», Святлана шчыра прызналася, што працуе на мясакамбінаце і атруцілася ягонай каўбасой. І пакуль медыкі змагаліся супраць хваробы з дыягназам «дызентэрыя сярэдняй ступені цяжкасці», на мясакамбінаце прайшла татальная санітарная праверка штатнага персаналу, сыравіны і гатовай прадукцыі. Імя «здрадніцы» патрапіла ў няміласць, ёй быў забяспечаны астракізм. Па сканчэнні тэрміну бальнічнага 5.06.2001 г. Святлане Рудкоўскай далі зразумець, што ёй няма месца ў цэху і на камбінаце ўвогуле.

Заступіўся за жанчыну ветэрынарна-санітарны доктар каўбасна-кулінарнага цэху Раман Юргель. Пры яго дапамозе і праз кваліфікаваную юрыдычную падтрымку ў Гарадзенскім аддзяленні Беларускага Хельсінкскага камітэту Святлане Рудкоўскай удалося выйграць суд у адміністрацыі і атрымаць грашовую кампенсацыю за матэрыяльныя страты.

Але ледзьве Юргель паспрабаваў адвесці біду ад пакрыўджанага чалавека, як наклікаў гнеў начальства на сябе. Газетная публікацыя ў «Пагоні» дадала агрэсіі ў гэтым пераследзе. Увосень мінулага году доктара-эксперта перамясцілі на іншы ўчастак працы, а 10 студзеня 2001 году ён вымушаны быў напісаць заяву на звальненне. Адгалоскі помсты не даюць яму магчымасці рэальна прэтэндаваць на вакансіі ў Гродне, хоць Раман Юргель дамагаўся працаўладкавання нават праз пракуратуру вобласці і рэспублікі.

Зрэшты, было б няшчыра спісваць усе цяперашнія праблемы беспрацоўнага доктара-ветэрынара толькі на канфлікт з адміністрацыяй мясакамбінату. Яго першае знаёмства з газетчыкамі «Пагоні» супала па тэрмінах з узбуджэннем крымінальнай справы супраць Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі. Ад кіраўніцтва мясакамбінату таксама прагучала пагроза судзіцца па фактах артыкулу «Смачна есці?..», які быццам бы збіў попыт на прадукцыю і яе не ўдалося прадаць на 30 мільёнаў. Журналісты мусілі адбівацца ад новай фальсіфікацыі, і Юргель стаў побач з імі, не прапускаючы ніводнага пікету і судовага паседжання.

19 сакавіка гэтага году на Рамана Юргеля напалі двое невядомых. Пацярпелы атрымаў цялесныя пашкоджанні, якія пацягнулі за сабою расстройства здароўя. На заяву ў аддзел унутраных справаў Кастрычніцкага райвыканкаму горада Гродна падпалкоўнік міліцыі Л.Бет паведаміў, што «ў ходзе аператыўна-пошукавых мерапрыемстваў асобаў, якія мелі б дачыненне да дадзенага факту, устанавіць не ўяўляецца магчымым».

2 чэрвеня Юргель звяртаецца да начальніка РАУС Кастрычніцкага раёну са скаргай на дзеянні супрацоўніка гэтага аддзелу сп. Ярмоліка. У 0.15 ночы той тэлефануе на кватэру і патрабуе неадкладна з'явіцца на допыт у якасці сведкі па крымінальнай справе газетчыкаў. Услед за міліцыянтам у тую ж ноч нехта іншы тэлефанаваў і выклікаў Юргеля на сустрэчу ля пастаменту з танкам, прапаноўваў не хадзіць на суд газеты «Пагоня».

Жорсткі прысуд аб абмежаванні волі Міколу Маркевічу і Паўлу Мажэйку іхны сябра Раман Юргель сустрэў у залі суда воклічамі ганьбы.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Край забраны?

*Баль-маскарад будаўніцтва «саюзнай дзяржавы», здаецца, скончаны, удзельнікі пачалі здымаць святочныя маскі*

**Адказы Уладзіміра Пуціна на пытанні расійскіх і замежных журналістаў неаспрэчна засведчылі, што ў Расіі створана новая палітычная сістэма, якая па сваіх жаданнях найбольш нагадвае імперскую Расію. Прыкладам, ніводнага разу не прагучалі адпаведныя, здавалася б, нормам шматнацыянальнай федэрацыі словы «рэспубліка», «нацыянальнасць», а толькі «рэгіёны», «краі», «вобласці». Як некалі ў добрыя старыя часы панавання Раманавых.**

У такім стане бачыцца расійскім палітыкам і Беларусь, можа не адразу, а праз які дзесятак гадоў. Імперскі рух быў бы хутчэйшым, але Расія атрымала ў спадчыну ад СССР эканоміку з мноствам хібаў. Шмат прамысловых гігантаў ніколі не змогуць стаць прыбытковымі з-за свайго месцазнаходжання, бо іх будавалі з ваенных меркаванняў, без уліку рэальных эканамічных магчымасцяў. Дзве траціны расійскага прамысловага абсталявання выпушчаны яшчэ 15 гадоў таму, а траціна мае ўзрост болей за 25 гадоў. Гэта ў тры разы вышэй, чым у сярэднім па ЕЭС. Мадэрнізацыя інфраструктуры патрабуе інвестыцыяў у памеры 2,5 трыльёна даляраў на працягу 20 гадоў, прычым чацвёртую частку гэтых сродкаў разлічваюць атрымаць з Захаду.

Зразумела, што ў невялікай і збяднелай Беларусі сітуацыя яшчэ горшая. У часы, калі рэспубліка была «зборачным цэхам» СССР, тут будаваліся прадпрыемствы агульнасаюзнага прызначэння, якія цяпер неканкурэнтаздольныя, але з якімі зніталіся лёсы соцень тысяч людзей – што дазваляе маніпуляваць іхнай залежнасцю ад расійскіх паставак сыравіны і энерганосьбітаў.

Пуцін патраціў два гады на выбудову вертыкалі ўлады, якая сёння толькі-толькі пачынае дзейнічаць. Яму не патрэбны найвышэйшы ці паралельны орган цэнтральнага кіравання, прычым напалову з Беларуссю, якая ў 33 разы бяднейшая, аднак, тым не менш, мае навязваць сваю ідэалогію. Таму разыходжанні У. Пуціна і А. Лукашэнкі – прынцыповыя, і наўрад ці тут магчыма знайсці кампраміс. Яшчэ помняцца антынатаўскія выступы А.Лукашэнкі, а яго канфлікты з еўрапейскімі бюракратычнымі структурамі не сціхаюць і ў апошні час. Пуцін жа, нібыта той бамбардзір Міхайлаў у канцы 17-га стагоддзя, які ездзіў інкогніта ў Еўропу, цяпер кіруе Расію ў напрамку збліжэння з ЕС. Зразумела, што пазіцыя сённяшняга кіраўніцтва Беларусі ніяк не стасуецца з такой ідэалогіяй.

Пакуль што А. Лукашэнка публічна не адрэагаваў на апошнія выказванні У. Пуціна ў роўным памеры, аднак пра іх дазволілі сабе выказацца дзяржаўныя мужы драбнейшага маштабу. Прыкладам, намеснік старшыні міжнароднай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Сяргей Касцян заявіў нават, што У.Пуцін *«выконвае заказ габрэйскага лобі»*, якое *«кіруецца ўказаннямі з Вашынгтону»*. Тым не менш, на думку С.Касцяна, *«Саюз будзе...»*.



Выказаўся ў падтрымку ідэяў А. Лукашэнкі і высокі госць, экс-прэзідэнт РФ Б.Ельцын. Пасля сустрэчы з А.Лукашэнкам 21–22 чэрвеня ён заявіў, што падпісаны імі ў 1999 годзе Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы *«вельмі добры»*. Экс-прэзідэнт Расіі шчыра прызнаўся, што прыляцеў у Мінск з мэтай *«згладзіць вострыя вуглы»* ў беларуска-расійскіх стасунках, якія ўзніклі з-за таго, што *«ў некага з'явіўся сверб змяніць саюзны дагавор»*. Гэты «нехта», аднак, як усе чулі, – цяперашні прэзідэнт Расіі.

У. Пуцін, у сваю чаргу, на прэс-канферэнцыі ў Маскве заявіў, што Б. Ельцын – «свабодны чалавек, ён мае магчымасць свабодна перамяшчацца, сустракацца, выказваць сваю думку. Было б памылкай спекуляваць на гэтым, раскручваць нейкія скандалы. Барыс Мікалаевіч – яскравы чалавек, дасведчаны палітык, у яго ёсць свая думка, ён яе выказвае. Дзякуй, будзем мець на ўвазе».

Але У. Пуцін рашуча падкрэсліў, што ён *«будзе рабіць тое, што лічыць патрэбным інтарэсам Расіі – цяпер і на перспектыву»*.

Сітуацыя ўсё ж відочна напалілася, бо ў Мінск тэрмінова прыехаў вядомы дыпламат, перакананы расійскі дзяржаўнік, прэзідэнт расійскай Гандлёва-прамысловай палаты Яўген Прымакоў. Пасля сустрэчы з А. Лукашэнкам ён сказаў: *«Мне падаецца, што на гэтым этапе захаванне суверэнітэту неабходна, але пры дэлегаванні пэўных паўнамоцтваў наднацыянальным органам»*. У сваю чаргу беларускі прэзідэнт, гаворачы пра далейшыя крокі па фармаванні прававой асновы Саюзнай дзяржавы, заявіў, што бакі *«гатовыя да карэкціроўкі»*. Але словы «наднацыянальныя органы» якраз і раздражняюць Пуціна. Ці пагодзіцца ён на «карэкціроўкі», пакуль невядома.

Не застаўся ўбаку і Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Павел Барадзін. Ён спадзяецца, што маючая адбыцца сустрэча Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна паставіць кропку ў *«маленькіх дэбатах, што мелі месца ў апошні час»*. На думку дзяржсакратара, прэзідэнт Расіі пацвердзіў курс на далейшую інтэграцыю дзвюх краін і на прэс-канферэнцыі 24 чэрвеня *«вельмі канструктыўна і граматна ўсё абгрунтаваў»*.

Відаць, А. Лукашэнка ўсё ж адчувае пэўную крыўду за тое, што Пуцін дазволіў сабе агучыць на публіцы думкі пра суадносіны дзяржаваў і адпаведныя перспектывы іх будучыні (Расія – буйнее, Беларусь ідзе да яе ў суб'екты). З гэтай прычыны лукашэнкаўскі БПСМ, вельмі чуйны да настрояў прэзідэнта, выступіў у яго падтрымку. Але чамусьці маладзёны з БПСМ пераблыталі У.Пуціна з беларускай апазіцыяй і ў сваёй заяве традыцыйна выграшылі наваліцца на яе: *«БПСМ абураны чарговай спробай беларускай апазіцыі зняславіць перад беларускім грамадствам інтэграцыйныя працэсы, што адбываюцца паміж Беларуссю і Расіяй»*. Кіраўнік БПСМ зазначыў, што А. Лукашэнка – адзіны чалавек з усіх лідэраў краін СНД, які надаў рускай мове статус дзяржаўнай, захаваў у Беларусі павагу да Расіі, а таксама паслядоўна адстойваў ідэю адзінства братніх славянскіх народаў. Аднак у гэтых адносінах расійскі прэзідэнт таксама за поўнае адзінства, за такое зліццё братніх народаў, каб суверэнітэт беларусам стаў непатрэбны. А без яго будзе край забраны за 3–5 гадоў. Тут Пуцін кажа шчырую праўду.

Кіраўнік БПСМ Юры Салаўёў выказаў упэўненасць, што прэзідэнт А. Лукашэнка выконвае гістарычную місію і яго па заслугах ацэняць сучаснікі і гісторыя. Не выпадае ў гэтым сумнявацца. 50% дарослага насельніцтва Беларусі ўжо ацаніла місію Лукашэнкі, не жадаючы палітычнага саюзу з Расіяй і паглынання сваёй Айчыны суседам.

**Віктар ЛАГОЙКА**

## *Выказванне Пуціна адносна беларуска-расійскіх саюзных дачыненняў перад 700 прадстаўнікамі расійскіх і замежных СМІ*

«У нас рознагалоссяў жа няма... Я выклаў сваю пазіцыю па шэрагу пытанняў, Аляксандр Рыгоравіч мяне ўважліва выслухаў. Сказаў, што ў прынцыпе ён падзяляе мае апасенні па некаторых з іх. І мы дамовіліся, што... да канца месяца яшчэ раз сустрэнемся і пракансультуемся...

Я наогул думаю, што такія пытанні, як аб'яднанне Расіі і Беларусі, павінны быць здабыткам самай шырокай грамадскасці. Не павінна быць ніводнага нюансу, які б выпаў з-пад увагі людзей. Гэта датычыцца ўсіх нас і ў Расіі, і ў Беларусі.

Наогул, рускі і беларускі народы настолькі блізкія, я не магу сказаць, што гэта адзін народ, але гэта ў поўным сэнсе слова братнія народы. І ў свой час раздзяленне на дзве дзяржавы было, на мой погляд, неабгрунтаванае, шкоднае і згубнае як для беларускага, так і для рускага народаў...

Што мы маем сёння ў рэаліях? Дзве незалежныя дзяржавы. Беларусь – незалежная дзяржава, член ААН, суверэнная, еўрапейская, сярэдняя па еўрапейскіх маштабах краіна. На мой погляд і на мой густ, аб'яднанне такіх блізкіх народаў, як рускі і беларускі, павінна быць праведзена на безумоўнай аснове ў межах адзінай дзяржавы. А гэта значыць, што не павінна быць ні Дзярждумы РФ, ні беларускага парламенту, ні расійскага ўраду, ні беларускага ўраду. Павінен быць адзіны парламент, саюзны. Можна назваць яго Саюзнай думай, можна як заўгодна. Павінен быць адзіны ўрад і адзіная краіна.

Гатовы нашы партнёры да такога рашэння ці не? Мяркуючы па праекце прадстаўленых нам дакументаў, гэта праект Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы. І там напісана, што ў гэтым Канстытуцыйным акце павінны быць адлюстраваны пэўныя прынцыпы, галоўным з якіх з'яўляецца суверэнітэт Беларусі, тэрытарыяльная цэласнасць і права вета. Ці можна з гэтым спрачацца і крытыкаваць? Абсалютна недапушчальна і памылкова.

Трэба паважаць думку беларускага народа, які прадстаўляе інтарэсы сваёй краіны. Так нам прадстаўлена ў дакументах. Калі гэта так, то мы павінны гарантаваць і Расіі, і Беларусі гэты суверэнітэт, тэрытарыяльную цэласнасць і права вета. Што такое права вета? Гэта значыць, што Беларусь па нейкіх праблемах можа сказаць: не, я супраць. І тады гэтае рашэнне не будзе дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі. Таму што інакш бессэнсоўна пісаць там суверэнітэт. Інакш адбудзецца проста паглынанне Расіяй Беларусі, калі ўлічыць, што беларуская эканоміка – гэта 3 працэнты ад расійскай. Мы ж разумеем: нават не за пяць гадоў, – за паўгода, за два, тры дакладна адбудзецца паглынанне.

Паважаючы гэтую думку беларускага народа, выражаную ў дакуменце, які мы атрымалі ад беларускага кіраўніцтва, мы павінны забяспечыць гэтае права суверэнітэту і права вета.

Якім чынам? У аб'яднанай Еўропе гэты механізм прапісаны. Еўрапарламент прымае рашэнне, гэтае рашэнне пацвярджаецца нацыянальным парламентам краіны Еўрасаюзу, падпісваецца кіраўніком дзяржавы і прымае форму нацыянальнага закону. І тады выконваецца яе нацыянальны ўнутраны закон. Але тады выконваецца ў безумоўным плане, і ніхто ўжо тады не скажа, што вялікі сусед навязаў тое ці іншае рашэнне. Ці ніхто не скажа, што эканоміка Расіі вымушана прымаць нейкія рашэнні на шкоду сабе і на карысць беларускай эканомікі. Не хоча Расія – значыць, не прыме адпаведнага закону. Але калі прыме, тады павінна выконваць.

Вось так адбываецца ў Еўропе ўсе гэтыя гады. Так, гэта паступальны, сціплы працэс, але эфектыўны. Паглядзіце, што адбываецца ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. У некаторых краінах войны грамадзянскія ішлі ўсе гэтыя гады. Дзяржавы распаліся, але ўсе яны паступова дрэйфуюць у Еўрасаюз і зноў аб'ядноўваюцца там жа. Таму што гэта адбываецца на добраахвотнай аснове. Вось такая ж працэдура прапаноўваецца і мной, калі гаворка ідзе пра суверэнітэт, тэрытарыяльную цэласнасць і г. д. Я і кажу: давайце забяспечым гэты суверэнітэт і ўвядзём правілы, як у Еўрасаюзе. Ясная, зразумелая, абсалютна празрыстая працэдура, якая гарантуе інтарэсы і Беларусі, і Расіі.

На сённяшні дзень што мы чытаем у гэтым дакуменце, у дагаворы? Саюзны парламент з вельмі шырокімі паўнамоцтвамі і з незразумелымі механізмамі рэалізацыі. Я проста пабойваюся, што гэты саюзны парламент, калі мы яго абяром у такім выглядзе, у такой якасці на аснове вось гэтых дакументаў, ён будзе прымаць законы, якія будуць не выконвацца то ў Беларусі, то ў Расіі. І мы дыскрэдытуем саму ідэю аб'яднання...

Проста пара спыніць жаваць жуйку дзесяць гадоў і вызначыцца, хочам мы ці не хочам, і чаго хочам...».

## Паўэкватару прабегу на «вертыкальшчыка»

На 5 дзён пазней выплачваюць зараз пенсію і сацыяльную дапамогу ў Брэсцкай вобласці. Запазычанасць па зарплаце перад працаўнікамі прамысловасці, будаўніцтва і сельскай гаспадаркі складае 8–10 мільярдаў рублёў штомесячна. На гэтым фоне несправядлівай крыўды шараговых катэгорый насельніцтва бяздоннай прорвай выглядае паглынанне грашовых сродкаў на абслугоўванне персанальнага транспарту чыноўства. Як падлічылі ў Камітэце дзяржкантролю па Брэсцкай вобласці, сярэдні прабег кожнага «членавоза» ў 2001 годзе склаў 22 000 кіламетраў, альбо палову даўжыні зямнога экватару. Пры гэтым спалена 250 чыгуначных цыстэрнаў бензіну, што адпавядае 80% яго расходвання цягам пасяўной кампаніі ва ўсіх гаспадарках рэгіёну. У сваім каментары да матэрыяльных выдаткаў на службовы аўтатранспарт «вертыкальшчыкаў» прэс-сакратар кантрольнага органа Сяргей Андрэюк не назваў кошт аплачаных камандзіровачных «шэфу» і вадзіцелю, у тым ліку ў валюце; набыццё запасных частак і выкананы рамонт; замену масла, фільтраў і г. д. «Яны – ашаламляльныя!» – сказаў С. Андрэюк.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

НЕДЗЯРЖАЎНЫ СЕКТАР

## 20% бюджэту паступае ад прадпрымальнікаў

У Беларусі каля 24 тысяч суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва і больш як 191 тыс. індывідуальных прадпрымальнікаў. За пяць месяцаў гэтага году ад недзяржаўнага сектару эканомікі ў бюджэт краіны паступіла 402,8 млрд. рублёў, ці 19,1% ад агульнага аб'ёму бюджэтных паступленняў за гэты перыяд (у 2001 годзе – 17,5%).

Лідэр па ўдзельнай вазе суб'ектаў малога прадпрымальніцтва – сфера гандлю і грамадскага харчавання: 46,4%. У прамысловасці гэтая лічба складае 19,6%, у будаўніцтве – 11,3%, на транспарце – 5,6%.

Заняцце прадпрымальніцкай дзейнасцю ў Беларусі звязана са шматлікімі праблемамі. Гэта складанасць і высокі кошт працэдуры рэгістрацыі юрыдычных асобаў, вялікі пералік ліцэнзаваных відаў дзейнасці, абмежаванасць доступу да крэдытна-фінансавых рэсурсаў.

Не стымулюе развіццё прадпрымальніцтва высокая стаўка падатку з выручкі ад рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) пры спрошчанай сістэме падаткаабкладання.

**БелаПАН**

## «Чэрвеньскі» стане на рэканструкцыю

Уладальнік бойкага гандлёвага месца ў цэнтры сталіцы, пад назвам «Чэрвеньскі рынак», Белкаапсаюз аб'явіў аб падрыхтоўцы да яго рэканструкцыі. Ужо пройдзены этап эскізнага праектавання, вызначаны агульны від і праведзены тэндэр сярод прэтэндэнтаў у генпадрадчыкі. Паводле словаў в. а. генеральнага дырэктара ведамаснай установы «Белкааппраект» Васіля Новіка, складанасць архітэктурнага рашэння вызначаецца вельмі абмежаванай плошчай (усяго 2,5 гектары) для развіцця гандлёвых плошчаў. Таму «Чэрвеньскі» будзе расці ўгару. Ад жылога масіва па сутнасці рынак адгародзяць крытыя павільёны з новымі гандлёвымі месцамі з поўным наборам сучасных інжынерна-тэхнічных камунікацыяў, як халадзільнікі, грузавыя ліфты, вентыляцыя, водазабеспячэнне і г. д. На галоўнай частцы рынку будзе пабудаваны высотны дзелавы цэнтр і два супермаркеты па продажу харчовых і прамысловых тавараў адпаведна. Ад вуліцы Маякоўскага размесціцца паркінг для 800 аўтамабіляў.

У першую чаргу будуць пабудаваныя паркінг і маркет прамысловых тавараў; у другую – харчовая крама, рэстаран; затым – гаспадарчы блок, крытыя павільёны, і маркет «еўра-люкс».

Ужо перад тым, як на «Чэрвеньскім» з'явяцца будаўнікі, адміністрацыі рынку давядзецца змяншыць колькасць гандляроў. Па прыкладах так званага ўпарадкавання вулічнага гандлю, выязнога – на «Камароўцы» і стацыянарнага на стадыёне «Трактар» можна чакаць утварэння чарговага ачагу сацыяльнай напружанасці ў беларускай сталіцы.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Хочаш спакою – заплаці падаткі

*Як выконваюць нашы грамадзяне закон «Аб падаходным падатку з фізічных асоб»? Карэспандэнтка НАШАЙ СВАБОДЫ запрасіла да гутаркі Галоўнага дзяржаўнага падатковага інспектара аддзелу метадалогіі вылічэння маёмасных падаткаў, дэкларавання даходаў і маёмасці Упраўлення метадалогіі падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Марыну Грыгарчук.*

**– Раскажыце, калі ласка, колькі грамадзян падалі дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе і на колькі папоўніцца казна ад іх падаткаў?**

– Да першага сакавіка гэтага году дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе падалі ў падатковыя інспекцыі 275 712 грамадзян. Гэта на 20 тысяч чалавек болей, чым летась. У 2001 годзе ў дзяржаўную казну паступіла 2,2 мільярда рублёў у якасці падаходнага падатку, у гэтым годзе лічба будзе вышэйшая. Толькі тыя грамадзяне, якія ўжо падалі дэкларацыі, пералічаць амаль 4 мільярды рублёў. Гэта пры тым, што толькі 99 тысячам грамадзян налічаны падаткі к даплаце.

**– Гэта значыць, што не заўсёды, калі чалавек падае дэкларацыю, яму абавязкова трэба будзе дадаткова плаціць падатак?**

– Так. Сёлета толькі 36 працэнтам грамадзянаў, якія падалі дэкларацыі, налічана даплата, летась – 40 працэнтам.

**– Ведама, што хавацца ад падатковага інспектара неразумна. Кожны бухгалтар, праводзячы выплаты, падае звесткі ў падатковую інспекцыю па месцы рэгістрацыі прадпрыемства. Ці ёсць у вас звесткі, колькі грамадзян «забыліся» наведаць падатковую інспекцыю?**

– Летась такіх грамадзян было 15 тысяч, і выяўлялі мы іх па працягу ўсяго году. Таму сёння рана казаць, колькі іх будзе ў гэтым годзе. За несвоечасовае прадстаўленне звестак у падатковы орган, акрамя штрафных санкцый і пені, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь. У мінулым годзе ў Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях былі ўнесены змены, згодна з якімі адміністрацыйная адказнасць будзе распаўсюджвацца толькі на тых, хто не падаў дэкларацыі да 15 траўня – апошняга дня сплаты падаткаў. Але асобныя грамадзяне жывуць спадзяваннем: а можа і не выклічуць у падатковую інспекцыю?

**– Можа, сапраўды не выклічуць?**

– Абавязкова выклічуць. Толькі тады грамадзянін будзе вымушаны развітацца з большай сумай грошай. Давайце лічыць: адміністрацыйны штраф, 10% ад сумы падаходнага падатку і пеня за кожны дзень пратэрміноўкі ўплаты падатку (сёння гэта 0,139%).

**– Ці маюць падатковыя органы звесткі пра даходы грамадзян Беларусі, якія яны атрымліваюць за мяжой?**




– Так, звесткі пра ўсе даходы нашых грамадзян за мяжой прыходзяць у падатковыя органы. Але звычайна з вялікім спазненнем, можа, нават праз год. І таму, як я ўжо казала, чым больш грамадзянін парушае тэрмін падачы дэкларацыі, тым даражэй яму гэта абыходзіцца.

**– Можа, яны так робяць таму, што дзяржава кантралюе буйныя выдаткі грамадзян?**

– Гэта можа быць адной з прычын. Згодна з заканадаўствам, буйнымі лічацца выдаткі ў памеры 2 000 базавых велічынь. Калі, напрыклад, грамадзянін купляе аўтамабіль за 16 тысяч даляраў, то павінен прадставіць дэкларацыю, дзе ён заявіць крыніцы грашовых сродкаў. Пагадзіцеся, калі чалавек можа пацвердзіць, што зарабіў 8 тысяч, то незразумела, за якія сродкі ён купляе машыну ўдвая даражэйшую.

**– Падатковым заканадаўствам прадугледжана магчымасць для грамадзян, якія маюць некалькі крыніц даходу, не хадзіць у падатковую інспекцыю, а напісаць заяву, каб з іхніх заробкаў вылічвалі падаткі па стаўцы 20%. Так сапраўды прасцей?**

– Зразумела, прасцей. Чалавеку не трэба весці ўлік сваіх даходаў, не трэба прадстаўляць дэкларацыю аб сукупным гадавым даходзе. Але, з другога боку, трэба зразумець, што чалавек заплаціць больш падаткаў, калі яго даходы сціплыя, ці наадварот, меней, калі ён атрымлівае буйныя даходы. Згодна з нашай статыстыкай, 70% насельніцтва плаціць падаходны падатак па стаўцы 9%. У нас прагрэсіўная сістэма падаткаабкладання: больш зарабляеш – больш плаціш. І пры гэтым сярэдняя стаўка атрымліваецца 12%. Такім чынам, кожны чалавек павінен сам вызначыць, што для яго даражэйшае – час ці грошы.

**– Марына Алегаўна, давайце прааналізуем: з 1999 году, калі ўпершыню прымалі дэкларацыі ад фізічных асоб, палепшыліся ці пагоршыліся адносіны паміж грамадзянамі і падатковымі інспектарамі?**

– Зразумела, што ў 1999 годзе было шмат арганізацыйных складанасцяў: упершыню ўсё цяжка. Падатковы інспектар павінен працаваць так, каб у яго не ўзнік канфлікт з грамадзянінам. Бо пасля гэтага чалавек не будзе законапаслухмяным падаткаплатнікам, і гэты канфлікт, сутнасць якога «я да вас болей не пайду», будзе толькі разрастацца. Падатковы інспектар – жывы чалавек, і ён не застрахаваны ад памылак. Але калі ён памыліцца ў разліках, то гэта можна выправіць. А вось канфліктная сітуацыя з падаткаплатнікам – гэта большае гора. І за першую памылку падатковы інспектар будзе мякчэй пакараны, а вось за другую яго чакаюць вялікія непрыемнасці. З задавальненнем зазначу, што ў гэтым годзе на падатковых інспектараў у міністэрства не паступіла ніводнай скаргі.

**– Ведама, што ў падатковых інспекцыях, у прыватнасці, сталічных, створаны ўсе ўмовы, каб толькі людзі ішлі з дэкларацыямі.**

– Умовы залежаць ад магчымасцей канкрэтнага раёну. Недзе змаглі толькі паставіць дадатковыя крэслы, каб людзям было зручней чакаць, а недзе нават пакой выдзелілі для запаўнення дэкларацый. Прыкладна 90% грамадзян запаўнялі дэкларацыі разам з інспектарам. І ў той жа час у гэтым годзе больш грамадзян даслалі дэкларацыю поштаю. Апошні дзень падачы дэкларацыі – 1 сакавіка. І звычайна ўсе ідуць у падатковую інспекцыю пасля 10 лютага. У студзені добра, калі 1–2 чалавекі пададуць дэкларацыю. Вось прывычка рабіць усё ў апошні момант спрыяе з'яўленню размоваў пра тое, як цяжка падаць дэкларацыю.

**– Ці часта грамадзяне карыстаюцца паслугамі аддзелу кансультацый?**

– Цяпер у сталіцы створаны спецыяльныя аддзелы для кансультацый фізічных асоб. У рэгіянальных падатковых органах інспектар аддзелу фізічных асоб можа даць усебаковую кансультацыю па ўплаце падаткаў. З гэтага году ў падатковым заканадаўстве шмат зменаў на карысць падаткаплатніка. Напрыклад, грамадзяне ўжо не павінны плаціць падаходны падатак з даходаў, атрыманых у спадчыну. І таму чалавеку лепей прыйсці да спецыяліста і атрымаць кансультацыю, тым больш што за яе нічога не трэба плаціць.

**– Якімі вы хацелі б бачыць адносіны падаткаплатніка і падатковага інспектара?**

– Гэтыя адносіны паступова паляпшаюцца, бо прыходзіць разуменне таго, што грамадзяне і дзяржава патрэбны адно аднаму. У бюджэце краіны 12% складаюць грошы, атрыманыя ад уплаты падаходнага падатку. І з гэтых грошай не толькі чыноўнікі атрымліваюць заробак, але яны ідуць і на ўтрыманне дзіцячых садкоў, і на ахову здароўя, і на іншыя патрэбы. І таму трэба вучыцца будаваць партнёрскія адносіны.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Запужаны чалавек

## *Ці магчымае жыццё без страху?*

***На пачатку 21-га стагоддзя дактары ведаюць як мінімум паўтысячы разнастайных фобіяў (з грэцкай мовы фобія перакладаецца як боязь, навязлівы страх). Ці то цывілізацыя развіваецца гэтак хваравіта, ці то псіхолагі такія шчодрыя на прыдумлянне разнастайных фабійных дыягназаў, бо самі баяцца, што ім не стане працы?***

На слыху, бадай, усяго з дзесятак фобіяў. Адна з самых папулярных, напрыклад, клаўстрафобія – боязь апынацца ў замкнёнай прасторы. Гэтая фобія настолькі «раскручаная», настолькі часта згадваецца нават у тэлевізары, што многія людзі, нават і блізка не хворыя на клаўстрафобію, пачынаюць шукаць і, галоўнае, знаходзіць яе ў сябе. Шмат людзей баяцца лятаць самалётамі. Гэта – авіяфобія. Узяць хоць бы вядомага галандскага футбаліста Дэніса Бергкампа з англійскага «Арсеналу», які з-за яе прапусціў багата матчаў і за клуб, і за зборную, калі тыя павінны былі гуляць на выездзе ў мясцінах, куды не дабрацца (прынамсі хутка) наземным транспартам. Альбо можна згадаць прэзідэнта Паўночнай Карэі Кім Чэн Ира, які з гэтай прычыны летась ездзіў у госці да расійскага прэзідэнта Пуціна цягніком.

Што да фобіяў вядомых асобаў, то, напрыклад, Напалеон хварэў на гіпафобію (боязь коней) разам з лейкафобіяй (боязь белага колеру), таму ў ягоных стайнях ніколі не было белых коней. Так што калі вы бачыце карціну ці фільм, дзе Напалеон сядзіць на белым кані, ведайце: гэта не адпавядае рэчаіснасці. Пісьменнік Мікалай Гогаль баяўся быць пахаваным жывым (тафефобія). Каб пазбегнуць гэтага, Гогаль зрабіў пісьмовы тэстамент, каб яго пахавалі толькі тады, калі цела пачне тлець. Апрача таго, у Гогаля была патафобія – боязь розных хваробаў. Інакш гэта яшчэ называюць іпахондрыяй. Іосіф Сталін цярпеў на авіяфобію (боязь палётаў на самалёце), таксікафобію (боязь атручэння) і самніфобію (боязь класціся спаць).

Сярод найбольш распаўсюджаных таксама акрафобія (боязь вышыні) і гемафобія (боязь крыві). Прычым у гэтых фобіяў ёсць звышкрайнія праявы: ёсць людзі, у якіх гемафобія абвастраецца нават, калі яны чуюць фігуральныя выразы кшталту «сказаў як адрэзаў» і «спаць без задніх ног».

Ды чаго толькі людзі не баяцца? Боязззю павукоў, мышэй ці маланкі мала каго здзівіш, але ёсць фобіі проста унікальныя. Іх колькасць настолькі вялікая, што, пакорпаўшыся ў сабе, кожны з нас пра якую-небудзь фобію, а то і пра некалькі, можа сказаць, што і гэтым вярэдзіца ягоная душа. Прагледзеўшы доўгі спіс фобіяў, асабіста я лёгка знайшоў які дзесятак «сваіх». Ёсць рэдкія індывідуальныя фобіі, якім спецыялісты яшчэ нават не прыдумалі лацінскага тэрміну.

Добра, калі фобіі не замінаюць жыць. Тады ад іх нават не варта лячыцца. Аднак ёсць такія, што з імі без дапамогі псіхолагаў у сучасным свеце нікуды. Пагадзіцеся, цяжка жыць тым, хто мае боязь электрычнасці. Такія людзі, як толькі бачаць выключальнік ці электрапрыбор, адразу кідаюцца ў паніку. Натуральна, нязручна жыць без праса, халадзільніка, тэлевізара, у рэшце рэшт, проста святла.



Улюбёны жанчынамі аб'ект для ляманту спакойна адлачывае на мужчынскай руцэ

У ЗША, дзе выяўленне фобіяў стала проста нейкай модай, на іх хварэе каля 20% насельніцтва. Колькі фабійнікаў у нас, ніхто адмыслова не лічыў. Але, відаць, не менш, чымсьці ў не такіх праблемных, як мы, Злучаных Штатах. Між тым трэба адрозніваць фобію і непрыязнасць да чагосьці, фобію і нармальны, апраўданы пэўнымі сітуацыямі, чалавечы страх. Як даводзяць спецыялісты, страх ехаць у машыне падчас інтэнсіўнага транспартнага руху ці на вялікай хуткасці – стан звычайны. Паводле псіхолагаў, хваравітая фобія адрозніваецца ад страху тым, што з ёй амаль немагчыма зладзіць, пераадолець яе. Пры фобіі чалавек у адпаведнай сітуацыі пачынае патнець, задыхацца, у яго паскараецца пульс і ён гатовы кідацца наўцёкі куды заўгодна. Фабійнікі на што толькі не ідуць, каб не дапусціць сітуацыі, якой яны баяцца. Пра сітуацыйнасць фобіяў сведчыць эксперымент, які на пачатку мінулага стагоддзя правёў амерыканскі псіхолаг Скінэр: ён штучна прышчапіў немаўляці боязь трусоў. Калі дзіцяці першы раз паказалі труса, ён пацягнуўся палашчыць жывёліну. Другім разам, паказваючы труса, ззаду кінулі на падлогу нейкую рэч. Дзіця спужалася грукату і заплакала. І пасля, як толькі яно проста бачыла труса, то пачынала румзаць. Потым дзіця лёгка вылечылі ад гэтай фобіі. Труса паказвалі здалёк, і як толькі дзіця пачынала плакаць, яму давалі бутэлечку з ежай. Малы супакойваўся. Праз некалькі такіх сеансаў ён ужо гуляў з трусом.

Фобіі, спароджаныя пэўнымі прадметамі ці ўмовамі, называюць простымі. Ёсць яшчэ сацыяльныя фобіі – боязь апынуцца па-за ўвагай іншых людзей, адчуць сорам ці няёмкасць. Трэці від фобіяў – агарафобія. Гэта калі людзі баяцца апынуцца ў сітуацыі, дзе яны могуць страціць кантроль над сабой і не дадуць сабе рады ў небяспецы. Агарафобія грунтуецца на празмернай хваравітай фантазіі. Напрыклад, людзі баяцца звар'яцець.

Але ў першую чаргу можна паспачуваць тым, хто пакутуе на панафобію – боязь усяго.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

### Навуковыя назовы боязяў

Аблокаў – нефафобія
Агнястрэльнай зброі – гаплафобія
Аказацца задушаным – пнігафобія
Акулаў – селахафобія
Алкаголю – метылафобія
Атамнага выбуху – атамасафобія
Аўтамабіляў – маторафобія
Барадатых – паганафобія
Беднасці – пеніяфобія
Бездані – крэмнафобія
Больніц – назакамефобія
Болю – альгінафобія
Бясконцасці – апейрафобія
Ванітавання – дынафобія
Вар'яцтва – дэментафобія
Вошай – фтырыяфобія
Выказваць сваю думку – даксафобія
Выступаць публічна – гласафобія
Вядзьмарак – вікафобія
Вялікіх прадметаў – мегалафобія
Вяселля – гамафобія
Габрэяў – юдафобія
Гадзіннікаў – хранаметрафобія
Гародніны – лаханафобія
Гемарою – пракрафобія
Гомасексуалістаў – гамафобія
Грошай – храметафобія
Грыбоў – мікафобія
Грыпу – фебрыфобія
Гушчару – ніктагілафобія
Дажджу – амбрафобія
Дзяцей – педафобія
Дня – эозафобія
Дотыку – афенфасмафобія
Доўга чакаць – макрафобія
Дрэваў – дэндрафобія
Думаць – франемафобія
Ездзіць цягніком – сідарадрамафобія
Есці, глытаць – фагафобія
Жабаў – батрахафобія
Жабракоў – габафобія
Жывёлаў – заафобія
Забыцця – атазагарафобія
Займацца сексам – коітафобія
Залежнасці ад іншых – сатэрыяфобія
Замежнікаў – ксенафобія
Запэцкацца – рыпафобія
Застацца ў адзіноце – ізаляфобія
Зладзеяў – сцэлерафобія
Змеяў – афідыяфобія
Золата – аўрафобія
Зорак – астрафобія
Інфаркту – кардыяфобія
Калючых прадметаў – айхмафобія
Камп'ютэраў – кіберфобія
Катоў – аклюрафобія
Кахання – эратафобія
Кветак – антрафобія
Кітайцаў – сінафобія
Кніг – бібліяфобія
Крыжоў – стаўрафобія
Крытыкі – энісафобія
Кулі – балістафобія
Курэй – алектарафобія
Лічбаў – нумерафобія
Лысых – пеладафобія
Люстраў – катаптрафобія
Ляза – ксірафобія
Лялек – педыяфобія
Маланкі – брантафобія
Маленькіх прадметаў – мікрафобія
Маршчынаў – рытыфобія
Мастоў – гефірафобія
Менструацыі – менафобія
Месяца – селенафобія
Могілак – кайметрафобія
Мора – таласафобія
Мужчын – андрафобія
Музыкі – мелафобія
Мурашоў – мірмекафобія
Мыцца – абультафобія
Мяса – карнафобія
Насмарку – эпістаксіяфобія
Насякомых – акарафобія
Натоўпу – ахлафобія
Начной эякуляцыі – анейрагмафобія
Ночы – ніктафобія
Няшчаснага выпадку – дыстыхіфобія
Павукоў – арахнефобія
Папы рымскага – папафобія
Паразы – какарасрыяфобія
Пацукоў – земіфобія
Пекла – гадэфобія
Пераязджаць – трапафобія
Плаваць – аблутафобія
Пранцаў – луіфобія
Прастытутак – кіпрыдафобія
Працаваць – эргафобія
Прывідаў – фасмафобія
Прыгожых жанчын – калігінефобія
Прышчэпак – вакцынафобія
Пчолаў – апіфобія
Пылу – аматафобія
Радыяцыі – радыяфобія
Развалін – атэфобія
Раку – канцэрафобія
Ровараў – цыкляфобія
Рыб – іхтыяфобія
Рэўнасці – зелафобія
Сабак – кінафобія
Свабоды – элеўтарафобія
Святароў – іерафобія
Сексуальнага вычварэння – ларафобія
Сексуальных залётаў – кантрэлтафобія
Слепаты – скатамафобія
Смерці і паміранння – танатафобія
Смеху – геліяфобія
Снегу – хіянафобія
Сноў – анейрафобія
Сонечнага святла – фенгафобія
Стаматолагаў – дэнтафобія
Старэння – герантафобія
Стомленасці – капафобія
Страты памяці – амнезіфобія
Суду – літыкафобія
Сухотаў – фтызіяфобія
Сябе ў люстэрку – эйсаптрафобія
Танчыць – харафобія
Туманоў – гіміхлафобія
Тэатраў – тэатрафобія
Тэлефонаў – тэлефонафобія
Ураганаў – ліласпсафобія
Успамінаў – мнемафобія
Усяго, што злева – левафобія
Усяго, што справа – дэкстрафобія
Фекаліяў – капрафобія
Фобіяў – фобіяфобія
Хірургічнай аперацыі – тамафобія
Холаду – крыяфобія
Цалавацца – філемафобія
Цемры – скатафобія
Ценю – сцыяпафобія
Цешчы – пентэрафобія
Чарвякоў – скалецыфобія
Шуму – лігірафобія

**МІГРАНТЫ**

## *Уцёкі ў Беларусь*

**Сёлета Брэсцкая, Гродзенская і Мінская вобласці могуць прыняць на пасяленне па 6 чалавек, якія папросяць у беларускіх уладаў статусу ўцекача, Віцебская – 15, Гомельская і Магілёўская – па 10.**

Усяго прытулак дадуць 53 чалавекам. Менавіта такія ўцякацкія квоты вызначыў на 2002 год беларускі ўрад. Летась квоты прыёму бежанцаў былі большая амаль удвая – 90 чалавек. У 1999 годзе яны раўняліся 100 уцекачам. У Мінск бежанцаў наогул не пускаюць.

Зрэшты, усялякіх прыхадняў у нашай сталіцы і наогул па краіне без таго поўна. Па розных ацэнках, нелегалаў у Беларусі ад 100 да 150 тысяч чалавек. Нездарма ў Мінску ёсць месцы, дзе амаль немагчыма прайсці, каб да вас даслоўна не папрыклейваліся малыя афганчыкі ды таджычкі з мэтай вымагання грошай. Не кажучы ўжо пра такія банальныя рэчы, як пагроза асацыяльных учынкаў з боку неўладкаваных як след што да дахаў і жылля нелегалаў.

Усяго за час існавання незалежнай Беларусі да беларускіх уладаў па афіцыйны ўцякацкі статус звярнуліся 2,5 тысячы чалавек. Атрымалі яго 623 чалавекі. Пераважная большасць з іх – гэта афганцы (каля паўтысячы чалавек). Далей ідуць грузіны, таджыкі і эфіопы.

Як лічаць прадстаўнікі ААН у Беларусі, цікавасць уцекачоў да нашай краіны не дужа вялікая. Людзей праз беларускую тэрыторыю мігруе шмат, але мала хто жадае тут застацца на стала. У Беларусі ўцекачы сутыкаюцца з гэткімі ж праблемамі, як і ў іншых краінах. Яны не ведаюць мовы, не могуць знайсці працы, прыстойнага жытла. Адно што ў Беларусі дужа малая сацыяльная дапамога для бежанцаў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

**КРЫМІНАЛ**

## Скінхед і 40 фальшываманетчыкаў

16-гадовы мінскі скінхед (прыхільнік руху моладзі з так званай скуранoй галавою, брытагаловы) верхаводзіў у групе школьнікаў Маскоўскага раёна сталіцы. 40 дзяцей (ад 5-класніка і старэйшыя) збывалі праз газетныя кіёскі, гандляроў дробнага тавару, фруктаў і семак 5-тысячныя фальшывыя купюры беларускіх грошай. Разменную здачу вярталі скінхеду, і той пераразмяркоўваў гэты навар сярод уцягнутых у злачыннасць падлеткаў. Як паведаміў старшы ўпаўнаважаных ўпраўлення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю ў сталіцы Яўген Грачоў, яшчэ ў сакавіку ў Ленінскім і Маскоўскім раёнах былі выкрытыя грашовыя падробкі і затрыманыя некалькі іхных распаўсюджвальнікаў. Аператыўнае дазнанне вывела на след камп'ютэрнага вырабу фальшывак навучэнцам 9-га класа на кватэры ў доме, дзе пражываюць усе 40 цяпер падазраваемых міліцыяй. Хаця з кожным з іх адбылася гутарка ў прысутнасці бацькоў і адвакатаў, на наступны дзень некаторыя зноў былі затрыманыя пры спробе абхітрыць даверлівых прадаўцоў. Міліцыя арыштавала чатырох з сарака, хто мае поўныя 16 гадоў і можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Усе астатнія ўзятыя на ўлік у камісіі па справах непаўналетніх і праходзяць па справе як сведкі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

**ХВАРОБЫ**

## *Кожны 250-ы беларус – наркаман*

На сёння ў Беларусі на ўліку ў наркалагічных дыспансерах знаходзіцца 7 706 наркаманаў, з іх 159 – непаўналетніх.

Аднак сапраўдная колькасць хворых на наркаманію дасягнула 40 тысяч чалавек. Рост выпадкаў наркаманіі адзначаецца ва ўсіх рэгіёнах краіны, але найбольшая колькасць спажыўцоў наркотыкаў зарэгістравана ў Мінску і Гомельскай вобласці. Апошнім часам актыўна сталі выяўляць хворых у Віцебскай і Мінскай абласцях. За апошнія дзесяць гадоў колькасць спажыўцоў наркотыкаў узрасла ў 8,3 раза. Сярэдні ўзрост асобаў, якія знаходзяцца на дыспансерным уліку ва ўстановах наркалагічнага профілю, складае ад 20 да 30 гадоў.

Каля 40% ад агульнай колькасці наркаманаў, якія звяртаюцца па дапамогу, маюць судзімасць; каля 80% з іх – беспрацоўныя.

**Вольга АСІПЕНКА**

## понедельник 1 июля

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.15** Новости.
**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь! Передача из Бреста.
**09.15, 16.55** «Дамская комната». Сериал (Международный французский канал). 1-я серия.
**10.10** Арсенал. Программа об армии.
**10.45** Телебарометр. Прогноз погоды.
**11.00, 21.50** «Семейные узы». Сериал.
**12.20** «На перекрёстках Европы». Национальный телефестиваль песни.
**13.05** Б.Брондуков и Г.Давыдько в героико-приключенческом фильме **«ДЕЛО ДЛЯ НАСТОЯЩИХ МУЖЧИН»** («Беларусьфильм»).
**14.10** Телевизионный Дом кино. Международный кинофестиваль «Золотой Витязь».
**14.35** Док.сериал «Голубая бездна» (Великобритания).
**15.20** Худ. фильм для детей **«АЛЫЕ ПАРУСА»** («Мосфильм»).
**16.45** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Кто сказал «мяу»?».
**18.25** Зона Икс.
**18.35** «Деловые люди». Видеофильм.
**19.00** С.Сталлоне в боевике **«ПОЛИЦЕЙСКИЙ»** (США).
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**22.45** Стадион.
**23.35** Сериал «Гражданин начальник».

### ОРТ

**08.00** Новости.
**08.15, 17.20** «Семейные узы». Сериал.
**09.15** Премьера. Лоренцо Ламас в многосерийном боевике **«НЕУДЕРЖИМЫЙ»**.
**10.15** Царь горы.
**10.35** КОАПП.
**11.00** Новости (с субтитрами).
**15.55** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**18.15** «Ералаш».
**18.25** Нонна Мордюкова и Владимир Тихонов в фильме **«РУССКОЕ ПОЛЕ»**.
**20.00** Время.
**20.35** ОНТ представляет: «Наши новости».
**21.00** «Народ против». Телеигра.
**22.00** Док.сериал. «Закон джунглей».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Боевик **«16-Й ОТДЕЛ»**.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**08.10** Вести недели.
**09.05** Ток-шоу Марии Ароновой «Рядом с тобой».
**10.20** Александр Збруев и Ирина Понаровская в детективе **«МЕНЯ ЭТО НЕ КАСАЕТСЯ»**. 1976 г.
**16.20** «Союз бывших». Док. фильм Алексея Денисова «Таджикистан».
**17.05** Дорожный патруль.
**17.15** Вести - Москва.
**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** Сериал «Агентство НЛС».
**20.55** Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе «Пуаро Агаты Кристи. Дама в вуали» (Великобритания). 1990 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** Фильм **«ИЮЛЬСКИЙ ДОЖДЬ»**.

Героям фильма - примерно тридцать. Очень часто именно в это время у людей наступает период пересмотра уже выработанных ранее позиций... К такому пересмотру и приходит Лена. Ей многое надо обдумать заново. Она начинает понимать, что прежние оценки поверхностны, все предстает перед ней в ином, более ясном и резком свете. Это порой связано с потерями. Лена теряет бывшего ей самым близким человека, который становится чужим и далеким.

Режиссер: Марлен Хуциев.

В ролях: А.Белявский, З.Гердт, Е.Козырева, В.Шарыкина, Е.Уралова, А.Покровская, Ю.Визбор, А.Митта, 1966 г.

**00.15** Дежурная часть.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** Сериал «Идеальная пара».
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Намедни».
**10.40** Куклы.
**11.20, 14.40, 17.35** Криминал.
**11.30** Детектив **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШЕРЛОКА ХОЛМСА И ДОКТОРА ВАТСОНА»**. «Собака Баскервилей», 1серия.
**13.05** Дворовое воспитание. Ток-шоу «Принцип домино».
**15.30** Комедия **«ПРИШЕЛЬЦЫ»**.

1123 год. Бесстрашный рыцарь граф Годфруа де Монмирай на пути к своей невесте пленяет злую колдунью. В отместку колдунья подстраивает так, что отец невесты погибает от стрелы жениха, и о женитьбе не может быть и речи. Слуга рыцаря Жак Уй украл с покойного драгоценности и спрятал в часовне. Желая исправить положение, рыцарь находит в своём родовом замке древнего колдуна, который обещает вернуть рыцаря во времени к моменту рокового выстрела, чтобы тот смог промахнуться. Изготовив зелье, колдун перепутал рецепт, и рыцарь вместе со слугой очутился в 1993 году...

Режиссёр: Жан-Мари Пуаре.

В ролях: В.Лемерсье, М.-А.Шазель, К.Бюжо, И.Нанти, Д.Пен.

**18.35** Сериал «Улицы разбитых фонарей», 7 серия. «Инстинкт мотылька».
**19.45** Сериал «След оборотня», 5 серия.
**21.35** «Скорая помощь-3». Сериал (США), 22 серия, заключительная.
**22.35** Сериал «Улицы разбитых фонарей».
**23.40** «О, счастливчик!» Азартная игра.
**00.15** Триллер **«НЕЕСТЕСТВЕННЫЙ ОТБОР»**.

### КУЛЬТУРА

**09.15** Все суры Корана.
**09.40, 16.40** «Кучугуры и окрестности». Док.сериал. Режиссер В.Герчиков.
**10.25** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.
**10.35** «Экология литературы». Константин Ваншенкин. Римма Казакова.
**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.
**11.45** «За семью печатями». Телевикторина для старшеклассников.
**12.20** «Приключения Болека и Лелека». «Винтик и Шпунтик - веселые мастера». Мультфильмы.
**12.50** «Сверхнаука». «Русские горки».
**13.15** «Уроки русского». И.А.Бунин. «Темные аллеи». Читает Алла Демидова.
**13.35** «Порт». Сериал (Австралия, 1983). Режиссер К.Томсон.
**14.30** «Кто мы?» «Судьбы русской интеллигенции».
**15.10** «Блистательный Санкт-Петербург». Авторская программа А.Белинского.
**15.35** «Гранд». Сериал (Великобритания). Режиссер Д.МакКинон. 1-я серия.
**16.25** «Дудочка и кувшинчик». Мультфильм.
**17.50** «Мой Эрмитаж». Авторская программа М.Пиотровского.
**18.15** Сценограмма.
**18.45** К 50-летию Павла Когана. Концерт Московского государственного академического симфонического оркестра. Дирижер П.Коган.
**19.40** «Рекс». Мультсериал.
**19.50** «Театральная Россия». Г.Пинтер. «Сторож». Спектакль Драматического театра «На Литейном» (Санкт-Петербург, 2002). Режиссер Ю.Бутусов.
**21.40** «Совершенный негодяй». Сериал (Германия - Австрия - Италия, 1999). Режиссер Б.Фишерауэр. 1-я серия.
**22.30** Джем-5.
**23.25** «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.
**23.53** Программа передач.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультфильм «Том и Джерри».
**17.35** «Простой вопрос».
**17.45** Сериал «Моссад».
**18.30, 20.40** Телемагазин.
**18.45** Худ. фильм **«НА ПРЕДЕЛЕ СКОРОСТИ»**.
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Док.сериал «Смертельный риск». «Спасите наши души».
**21.30** Мистический триллер **«НАРУШИТЕЛЬНИЦА»**.

### СТВ

**06.00, 16.45** Минщина. Люди, события, факты.
**06.15** «Добро пожаловать».
**06.25** «Здравствуйте, доктор!».
**06.35, 00.30** «Виртуальный мир».
**06.45, 16.00** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
**07.10, 14.30** Мультсериалы: «Приключения Папируса», «Вуншпунш», «Инспектор Гаджет».
**08.30** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**08.45** Дж.Чан и С.Хун в комедийном боевике **«ЗАКУСОЧНАЯ НА КОЛЕСАХ»**.
**11.00** «168 часов».
**12.00** Новости мировой шоу-индустрии.
**12.30, 16.30, 19.00, 23.15** «24 часа».
**12.45** «Очевидец».
**13.15** «Убойная сила». Сериал.
**16.50** «Яго; темная страсть». Теленовелла.
**17.55** Канал истории: «Муамар Каддафи: сын пустыни». Док. фильм.
**19.15** «Добрый вечер, малыш...».
**19.30** «СТВ-спорт». Телеальманах.
**19.50** «Тема дня».
**20.00** **«РУИНЫ СТРЕЛЯЮТ...»**, 4-я серия.
**21.00** М.Хемингуэй, Э.Робертс, К.Робертсон в драме **«ЗВЕЗДА-80»**.
**23.30** Футбольный курьер.
**00.05** Ночной музыкальный канал.
**00.40** Новости СНГ.
**00.55** Музыка на СТВ.



## вторник 2 июля

### БТ

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 00.55** Новости.
**06.10, 07.10, 08.10** Доброе утро, Беларусь!
**09.15, 17.00** «Дамская комната». Сериал. 2-я серия.
**10.10, 15.45** «Грозовые камни». Сериал для детей.
**10.40** Стадион.
**11.05** К 120-летию со дня рождения народного поэта Беларуси Янки Купалы. «Янка Купала. Поклон мой народу за песни». Док. фильм («Телефильм»).
**12.20** Добрый день, Беларусь!
**13.10** «Бабье царство». Спектакль Национального академического драматического театра имени М.Горького по повести Ю.Нагибина (1987 г.).
**15.20** «Последняя резервация». Мультсериал.
**16.05** Молодёжный сериал «Жемчужины океана» (Франция). 1-я и 2-я серии.
**18.25** Зона Икс.
**18.35** Союзное вече.
**18.55** «Наше наследие». Замок Радзивиллов в Несвиже.
**19.10** О.Янковский и А.Абдулов в экранизации рассказа А.Чехова **«ПОЦЕЛУЙ»** («Мосфильм»).
**20.15** «За день до коронации». «Мисс Беларусь-2002».
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.50** Торжественное заседание и праздничный концерт, посвященные Дню Независимости Республики Беларусь.
**23.50** Спорт-курьер.
**00.00** Сериал «Гражданин начальник».

### ОРТ

**08.00** Новости.
**08.15, 17.20** «Семейные узы». Сериал.
**09.10** Премьера. Лоренцо Ламас в многосерийном боевике **«НЕУДЕРЖИМЫЙ»**.
**10.05** Дисней-клуб: «Любимчик».
**10.30** Что да как.
**10.45** «Ералаш».
**11.00** Новости (с субтитрами).
**15.55** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**18.15** Боевик **«ОГОНЬ НА ПОРАЖЕНИЕ»**.

Хозяин ювелирного магазина среди ночи в панике забирает бриллианты с неизвестной целью. Приехавшая на место «ограбления» полиция выясняет, что ювелир должен немедленно отдать драгоценности преступнику, захватившему его жену. Группа ФБР выезжает на помощь, но женщину спасти не удается.

Режиссер: Роджер Споттисвуд.

В ролях: Т.Беренджер, С.Пуатьее, К.Элли, К.Браун, Р.Мазур.

**20.00** Время.
**20.35** ОНТ представляет: «Наши новости».
**21.00** «Слабое звено». Игровое шоу.
**22.05** Премьера сериала «Убойная служба».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Боевик **«16-Й ОТДЕЛ»**.
**00.30** «Фирменный рецепт». Сериал.

### РТР

**08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**08.10** Премьера. «Это - Голливуд!» Док.сериал (США).
**09.00** Е.Копелян, П.Вельяминов, В.Спиридонов, Т.Семина и А.Роговцева в телесериале «Вечный зов».
**10.20** А.Белявский в детективе **«СВЕТ В КОНЦЕ ТОННЕЛЯ»**. 1974 г.
**16.20** «Союз бывших». Док. фильм Алексея Денисова «Украина».
**17.05** Дорожный патруль.
**17.15** Вести - Москва.
**17.50** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** Сериал «Агентство НЛС».
**20.55** Дэвид Суше в детективе **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. КЛЮЧ К РАЗГАДКЕ»** (Великобритания). 1991 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** Микки Рурк и Кристофер Уокен в фильме **«ДОМОСЕД»** (США). 1988 г.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ. ВРАЧЕБНАЯ ТАЙНА»**. Остросюжетный фильм.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Внимание. Розыск!».
**10.10** В гостях у Елены Степаненко и Евгения Петросяна «Растительная жизнь» Павла Лобкова.
**10.50** «Вкусные истории».
**11.20, 14.40, 17.40** Криминал.
**11.30** Детектив **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШЕРЛОКА ХОЛМСА И ДОКТОРА ВАТСОНА»**. «Собака Баскервилей», 2 серия.
**13.05** Мой дом - моя крепость. Ток-шоу «Принцип домино».
**15.30** Сериал «След оборотня».
**16.40** Боевик **«ГРЯЗНАЯ РАБОТА»** (США).
**18.35** Сериал «Улицы разбитых фонарей», 8 серия. «Обнесенные ветром».
**19.45** Сериал «След оборотня», 6 серия.
**21.35** «Скорая помощь-4». Сериал (США), 1 серия.
**22.35** Сериал «Улицы разбитых фонарей».
**23.40** «О, счастливчик!» Азартная игра.
**00.15** Триллер **«ПО ТУ СТОРОНУ ВУАЛИ»**.
**01.10** Окончание трансляции.

### КУЛЬТУРА

**09.15** «Тесные врата». «Княжна Тараканова».
**09.40, 16.40** «Кучугуры и окрестности». Док.сериал. Режиссер В.Герчиков.
**10.25** «Ох, уж эти детки!» Мультсериал.
**10.35** «Экология литературы». Леонид Зорин.
**11.30, 15.00, 17.30, 23.00** Новости культуры.
**11.45** Кино - детям. **«ВСЕ НАОБОРОТ»**. Худ. фильм (К/ст. им. М.Горького, 1981). Режиссеры В.Грамматиков, В.Фетисов.
**12.50** «Сверхнаука». «Острые ощущения».
**13.15** «Уроки русского». И.А.Бунин. «Темные аллеи». Читает Алла Демидова.
**13.35** «Порт». Сериал (Австралия, 1983). Режиссер К.Томсон.
**14.30** «Кто мы?» «Судьбы русской интеллигенции».
**15.10** Из собрания ГМИИ им. А.С.Пушкина. «Давид».
**15.35** «Гранд». Сериал (Великобритания). Режиссер Д.МакКинон.
**16.25** «Заяц Коська и Родничок». Мультфильм.
**17.50** «Дворцовые тайны». «Дворец Марли».
**18.15** «Театральная летопись XX века». Кирилл Лавров.
**18.45** «Партитуры не горят». Авторская программа А.Варгафтика.
**19.25** «Рекс». Мультсериал.
**19.40** **«СИССИ»**. Худ. фильм (Австрия, 1955). Режиссер Э.Маришка.
**21.25** «Дуновение века». Авторская программа А.Васильева. Фильм 1-й. «Дягилевские сезоны».
**22.05** «Совершенный негодяй». Сериал (Германия - Австрия - Италия, 1999). Режиссер Б.Фишерауэр.
**22.56** Афиша на завтра.
**23.25** «Ночной полет». Ведущий Андрей Максимов.
**23.53** Программа передач.

### 8 КАНАЛ

**17.30** Мультсериал «Незнайка».
**18.00** Док.сериал «Секреты рейха».
**18.45** Худ. фильм **«УНЕСЕННЫЕ ВЕТРОМ»**, 1-я серия.



**20.40** К-видео. «Топ-8».
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Гурман-клуб.
**21.20** Телемагазин.
**21.30** Мел Гибсон в комедии **«ПТИЧКА НА ПРОВОЛОКЕ»**.

### СТВ

**14.30** Мультсериалы: «Инспектор Гаджет», «Вуншпунш», «Приключения Папируса».
**16.00** «Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры». Сериал.
**16.30, 19.00, 23.10** «24 часа».
**16.45** Минщина. Люди, события, факты.
**16.50** «Яго, темная страсть». Теленовелла.
**17.55** «Секретные материалы». Сериал.
**19.15** «Добрый вечер, малыш...».
**19.30** «СТВ-спорт».
**19.40** «Виртуальный мир».
**19.50** «Тема дня».
**20.00** **«РУИНЫ СТРЕЛЯЮТ...»**, 5-я серия.
**21.00** «Земля людей».
**21.15** «Портрет в интерьере».
**21.30** Новости СНГ.
**21.45** «Добро пожаловать».
**21.55** «Арт-экспресс». Культурная жизнь столицы.
**22.10** «Пока горит свеча...».
**22.40** «Тайная дипломатия. Секретный отдел». Док. фильм.
**23.25** «Иллюзион»: приключенческая мелодрама **«НЕУКРОТИМЫЕ»**.

Пауль Ван Райбек, предводитель южноафриканских буров, приехал в графство Лимерик, чтобы купить здесь лошадей. С первого взгляда он полюбил красавицу Кэти О'Нил, но их роман даже не успел начаться, потому что Пауль был вынужден срочно вернуться домой, чтобы воевать с голландцами. Кэти вышла замуж за Шона Килдэйра, хотя продолжала думать о Пауле. И однажды она настояла на том, чтобы всей семьей переехать в Южную Африку. На поезд, в котором они ехали, напали зулусы, и не миновать бы беды, если бы их не спас Пауль. Правда, в том же бою погиб муж Кэти...

Режиссер: Генри Кинг.

В ролях: Тайрон Пауэр, Сьюзен Хэйуорд, Ричард Иган, Джон Джастин.

**01.30** Музыка на СТВ.

## среда

### БТ

**07.00** Худ. фильм режиссера Л.Голуба **«ПОЛОНЕЗ ОГИНСКОГО»**.
**08.30** Волшебная шкатулка «Союзмультфильма». «Как львенок и черепаха песню пели», «Терем-теремок», «Федорино горе».
**09.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.10** «Июль освобождения». Док. фильм.
**09.55** Военный парад и молодежно-спортивное шествие, посвященные Дню Независимости Республики Беларусь. Трансляция с Октябрьской площади.
**11.00** «Нить воспоминаний». Видеофильм.
**11.20** Военный кинороман режиссёра В.Четверикова **«ЧЁРНАЯ БЕРЁЗА»** («Беларусьфильм»). 1-я и 2-я серии.
**13.40** «Березина-2002». Видеофильм про комплексное оперативно-тактическое учение Вооруженных Сил Республики Беларусь.
**14.10** Песни ансамбля народной музыки «Бяседа».
**14.40** «Святыни белорусской земли. Брестская крепость». Док. фильм.
**15.20** Н.Ургант, А.Папанов, Е.Леонов в киноповести режиссера А.Смирнова **«БЕЛОРУССКИЙ ВОКЗАЛ»**.
**16.55** «От сердца к сердцу...». Романсы и песни в исполнении заслуженной артистки Республики Беларусь Тамары Печинской.
**17.25** А.Вертинская и О.Ефремов в худ. фильме **«СЛУЧАЙ С ПОЛЫНИНЫМ»** («Мосфильм»).
**19.25** В.Санаев и Б.Новиков в народной комедии режиссёра И.Добролюбова **«БЕЛЫЕ РОСЫ»**.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**22.05** Спорт-курьер.
**22.15** Национальный конкурс красоты «Мисс Беларусь-2002». Финал.
**23.20** С.Никоненко и Ю.Будрайтис в худ. фильме Г.Шенгелия **«КЛАССИК»**.

### ОРТ

**08.00** Новости.
**08.15, 17.20** «Семейные узы». Сериал.
**09.10** Премьера. Лоренцо Ламас в многосерийном боевике **«НЕУДЕРЖИМЫЙ»**.
**10.05** Программа «100%».
**10.30** Следствие ведет Колобков.
**10.50, 18.15** «Ералаш».
**11.00, 14.00** Новости (с субтитрами).
**11.15** **«ОГОНЬ, ВОДА И... МЕДНЫЕ ТРУБЫ»**. Фильм-сказка.
**12.40** Мультфильмы.
**13.00** «Народ против». Телеигра.
**14.15** Т.Самойлова и А.Баталов в худ.фильме **«ЛЕТЯТ ЖУРАВЛИ»**.
**15.55** Большая стирка.
**17.00** Вечерние новости.
**18.25** Пьер Ришар в комедии **«НАЛЕВО ОТ ЛИФТА»**.
**20.00** Время.
**20.35** ОНТ представляет: «Наши новости».
**21.00** «Кто хочет стать миллионером?» Телеигра.
**22.00** Комедийный сериал «Китайский городовой».
**23.00** Ночное «Время».
**23.30** Боевик **«16-Й ОТДЕЛ»**.
**00.25** «Фирменный рецепт». Сериал.

### РТР

**07.00, 08.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести.
**07.10** Дежурная часть.
**07.15** Москва - Минск.
**07.30** Дорожный патруль.
**07.40** Экспертиза РТР.
**08.10** Премьера. «Это - Голливуд!» Док.сериал (США).
**09.00** Е.Копелян, П.Вельяминов, В.Спиридонов, Т.Семина и А.Роговцева в телесериале «Вечный зов».
**10.20** В.Осенев и У.Пуцитис в детективе **«КЛЮЧИ ОТ РАЯ»**. 1975 г.
**16.20** Футбол. Чемпионат России. Торпедо-ЗИЛ (Москва) - Спартак (Москва). Прямая трансляция со стадиона Торпедо.
**18.00** «Комиссар Рекс». Сериал.
**18.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.35, 22.20** Местное время. Вести - Москва.
**19.55** Сериал «Агентство НЛС».
**20.55** Вечерний сеанс. Дэвид Суше в детективе **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ. ЧТО РАСТЕТ В ТВОЕМ САДУ?»** (Великобритания). 1991 г.
**22.00** Вести - Подробности.
**22.30** А.Михайлов и Ю.Силаева в детективе **«ВОПРЕКИ ВСЕМУ»**. 1993 г.
**23.55** Фильм **«ТАНЦЫ ВЛЮБЛЕННЫХ»** (США). 1988 г.

Параллельные любовные истории двух друзей, один из которых влюбился, а второй пытается сохранить свой брак.

Режиссер: Роберт Гринвольд.

В ролях: Сьюзан Сарандон, Дон Джонсон.

### НТВ

**07.00, 07.30, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00** Сегодня.
**07.10, 07.35** Утро на НТВ.
**07.50** **«ПОЛИЦЕЙСКИЕ. НОЧНОЙ ВИЗИТЕР»**. Остросюжетный фильм.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** «Криминальная Россия. Черная лента».
**09.55** Квартирный вопрос. Гостиная в ин-

# Футбол – новы сусветны парадак

*Поспех Турцыі і Паўднёвай Карэі на чэмпіянаце свету па футболе мае глыбокі палітычны рэзананс. Дзве дзяржавы вяртаюць сабе «страчаную павагу» міжнароднай супольнасці.*

Футбол – гэта не пытанне жыцця і смерці. Футбол – рэч нашмат важнейшая! – кажа англійская прыказка. Бачачы шчыльныя натоўпы, мільёны людзей, якія гатовы ўвайсці ў экстаз на берагах Басфору ці запрудзілі вуліцы Сеулу, разумееш, да якой ступені просты спартыўны поспех можа змяніць ход падзеяў. Цудоўнае шэсце нацыянальных камандаў Карэі і Турцыі па футбольных палях Азіі спрыяла абуджэнню ў гэтых краінах патрыятызму ў добрым сэнсе слова. Калі 11 карэйцаў зрабілі крок у паўфінал кубку свету, а неўзабаве за імі гэткі ж крок зрабіла бліскучая турэцкая каманда, гаворка ўжо не ішла толькі пра радасць «залатога голу». І рэч не ў забітым пенальці, рэч – у душы нацыі.

Змучаная біржавым і фінансавым крызісам зімы 1997–1998 году, Паўднёвая Карэя доўга чакала гэтае хвіліны, каб вярнуць сабе нацыянальную годнасць. Яшчэ колькі тыдняў таму назад краіна нават не здагадвалася, што якраз футбол прынясе ёй шчасце. Сапраўдны выбух адбыўся ў 1/8 фіналу, у матчы з Італіяй, які ўвойдзе ў гісторыю. Калі Ан Чжун Хван адправіў у накаут «Скуадру Адзуру» «залатым» ударам галавою на 117-ай хвіліне, ён не толькі падаў сігнал да пачатку цудоўнага фэсту, які застанецца ў памяці карэйцаў – 5 мільёнаў грамадзян, ашалеўшы ад радасці, высыпалі на вуліцы ва ўсіх гарадах, ад Сеулу да Пусану – ён даў магчымасць народу перажыць катарсіс. Ваду на карэйскі млын праліла і параза старадаўняга японскага ворага ў бітве з… Турцыяй, якая таксама ашаламіла ўсіх.

Калі «Чырвоныя Д'яблы» ўзняліся на ступеньку паўфіналу, краіна зноўку адчула сябе акторам на сусветнай сцэне. Звязваць футбол і геапалітыку, забаўку і ход сусветных падзеяў? Параўнанне не такое недарэчнае, як здаецца. Можна сказаць, напрыклад, што анёльская фізіяномія Ільхана Маншыза, нападніка стамбульскага




**Карэйцы годна прынялі паражэнне ад каманды Германіі, аддаўшы паклон і пераможцам, і мільёнам аматараў футболу.**

«Бешыкташа», ягоныя скулы з пасмамі кудзераў навокал, падобнымі да пальмавых галінак, нагадала твар Хубілая, унука Чынгісхана. Праўда, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што ўсе адзінаццаць туркаў, ад Хасана Шаша да Эмрэ, ад Юміта Давала да Басцюрка, дыхалі футболам. У гэтай пераможнай манеры таптаць газон жыве слава ордаў, перад якімі рассцілаўся бясконцы стэп, калі яны ішлі на Захад.

Акрамя таго, і ў гульні ў мяч, і ў перамовах з Брусэлем туркі заўжды бачаць перад сабою адзін і той жа гарызонт. Яны рухаюцца да гэтага таталынага Захаду, які ні ў чым ніколі не саступаў ім, пачынаючы з адмовы прызнаць у іх еўрапейцаў. Пасля агоніі Асманскай імперыі ў канцы першай сусветнай вайны Высокая Порта страціла сваю імперскую магутнасць. Але ў Стамбуле дагэтуль лічаць, што Турцыя – гэта ўскраіна Еўропы. «Пачатак Азіі», – пярэчыць Стары кантынент, які па-ранейшаму стараецца адмаўляць у сваіх межах «ісламскае вымярэнне». Апошняя нагода для «пераўвасаблення» надарылася ў мінулыя выходныя, на еўрапейскім саміце ў Севільі, і пацвердзіла трывалую традыцыю. Еўропа заўсёды знойдзе спосаб, каб адтэрміноўваць непазбежнае – прызнанне Турцыі еўрапейскай краінаю. На настойлівыя патрабаванні турэцкага ўраду прызначыць дакладную дату перамоваў пра ўступ і, калі магчыма, прымеркаваць іх да еўрапейскага саміту, які пройдзе ў снежні ў Капенгагене, – Герхард Шродэр катэгарычна адмовіў. Кансерватар Эдмунд Штойбер, супернік Шродэра на выбарах, якія пройдуць у Германіі ў верасні, ідзе яшчэ далей: ён лічыць, што Турцыя ўвогуле ніколі не ўвойдзе ў Еўрапейскі Саюз.

Ад Анкары да Ізміру мацнее ўпэўненасць, што нарэшце здзейсніцца вар'яцкая мара туркаў пра фінал супраць Германіі, краіны выгнання, якая за сорак гадоў паглынула каля трох мільёнаў туркаў, але так і не дала ім сапраўднага грамадзянства. Спецыяльны карэспандэнт каналу *CNN* у Турцыі распавядае, што падчас матчу Турцыя–Бразілія ў групавым турніры «палі былі пустыя, бо ўсе сяляне засталіся дома, каб паглядзець, як гуляе нацыянальная зборная». Вайскоўцы, гаранты Атацюркавага свецкага цэнтралізму, ніколі б не дамагліся такога выніку.

**Le Temps**

# Маргарэт Тэтчэр: Вагацца не трэба

***На працягу большай часткі майго палітычнага жыцця дзве звышдзяржавы, ЗША і СССР, мелі вялізныя ядравыя арсеналы, нават малая частка якіх магла б прынесці непапраўныя няшчасці. Аднак значэнне гэтага факту дысцыплінавала агрэсіўны экспансіянізм Саветаў і дазваляла захоўваць своеасаблівую стабільнасць. Фактычна існавалі добра зразумелыя абмежаванні таго, у якой ступені кожны з бакоў мог кідаць выклік інтарэсам другога боку. Логіка застрашвання не была абсалютна бязгрэшнаю. Але правілы былі яснымі, псіхалогія – зразумелаю, а пазіцыі, на якіх кожны з бакоў будзе стаяць насмерць, – вядомымі.***

Пра Індыю і Пакістан гэтак сказаць немагчыма. Канфліктныя прэтэнзіі на Кашмір абцяжарваюцца адсутнасцю вопыту ў змаганні са спакусамі сваіх ядравых магчымасцяў. Спробе прэзідэнта Клінтана (4 гады назад) перакананць варагуючых паміж сабой суседзяў адмовіцца ад свайго ядравага статусу не суджаны быў поспех. Задача, якая сёння стаіць перад прэзідэнтам Бушам і яго пасланнікамі, аднячасна і болей складаная і болей рэалістычная: нагадаць Нью-Дэлі і Ісламабаду, што вайна – нават пераможная звычайная вайна – у рэшце рэшт прынясе іх нацыянальным інтарэсам болей шкоды, чым не надта ўладкаваны мір, які мала каго задавальняе. Важна таксама, што абедзве краіны ў цэлым прыязныя да Захаду.

Распаўсюджванне зброі масавага паражэння (ЗМП) тоіць у сабе куды больш небяспекі, калі гэтая зброя знаходзіцца ў руках заклятых ворагаў Захаду. Мы мусім зыходзіць з дапушчэння: калі нашыя ненавіснікі будуць упэўненыя, што змогуць стварыць пагрозу нам ці нашым саюзнікам, яны абавязкова гэта зробяць. Сама па сабе пагроза не можа паўплываць на здольнасць Захаду ўмешвацца ў ход падзеяў, каб бараніць нашы інтарэсы ці здзяйсняць гуманітарныя місіі. У некаторых выпадках мы павінны чакаць, што дзяржавы-ізгоі пойдуць далей за простыя пагрозы.

Не можа быць сумневу, што адказам на выкарыстанне супраць нас ЗМП стане масіраваны ўдар помсты – хутчэй за ўсё ядравы. Аднак нават гэтая жахлівая перспектыва можа быць недастатковай, каб запалохаць фанатыка, які



**Лэдзі Маргарэт Тэтчэр – слынны экс-прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі, аўтарка кнігі «Мастацтва дзяржаўнага кіравання: стратэгіі для зменлівага свету»**

абсалютна не думае ні пра сваю краіну, ні пра ўласную бяспеку. Мы ўжо назіраем такі менталітэт у дзеяннях бамбістаў-самазабойцаў. Пры цяперашніх тэмпах распаўсюджвання ў свеце ядравай, хімічнай і біялагічнай зброі і ракетных тэхналогіяў нам варта чакаць, што ў пэўны момант гэтыя сістэмы зброі будуць выкарыстаны. Прасцей кажучы – гэта найвялікшая пагроза нашага часу. І мы павінны быць да яе гатовыя.

Нам неабходна ізаляваць тыя дзяржавы-ізгоі, якія імкнуцца стварыць (ці ўжо стварылі) ЗМП, і зняць пагрозу, якую яны для нас уяўляюць. Іншым разам гэтага можна дасягнуць, спалучаючы дыпламатычны бізун з пернікам. Іран, напрыклад, цалкам слушна быў прылічаны прэзідэнтам ЗША да «восі зла». У яго ёсць ракетная праграма, якая пагражае бяспецы Ізраілю, узмацняючы падтрымку Іранам антыізраільскага тэрарызму. Але ўсё гэта толькі частка больш складанай карціны. Іран – тэакратычная дзяржава, якая памалу схіляецца да дэмакратыі. У пэўны момант рост грамадзянскай супольнасці ў Іране можа запатрабаваць рэабілітацыі яго ў вачах сусветнай супольнасці.

Паўночная Карэя, з другога боку, не можа рэфармавацца. Ад дыпламатыі ў гэтым выпадку толку мала. Паўночную Карэю ўжо зашмат замірвалі. Краіна знаходзіцца ў руках псіхатычнага рэжыму сталінскага кшталту, які трымаецца пры ўладзе дзякуючы тэрору і фінансуецца тымі, хто купляе ў яго ракеты. Гэта адна з нешматлікіх дзяржаваў, якая здольная нанесці несправакаваны ядравы ўдар. Яе рэжым павінен сысці, і, мяркую, ён наўрад ці сыдзе мірна.

Пералік дзяржаваў-ізгояў ад Ірану, з аднаго боку, да Паўночнай Карэі – з другога, будзе справаю доўгіх развагаў і дэбатаў. Гэта тычыцца таксама і Іраку. Я бачыла некаторыя ваганні наконт таго, ці трэба звяргаць Садама Хусейна – хоць і не ў прэзідэнта Буша. Але, як бы там ні было, цяпер вагацца не выпадае. Садам павінен сысці. Тое, што ён застаўся пры ўладзе пасля таго, як практычна прайграў вайну ў Персідскай затоцы, нанесла вялізную шкоду пазіцыям Захаду ў рэгіёне, дзе адзіным недаравальным грэхам лічыцца слабасць.

Парушэнне Садамам умоваў замірэння зрабіла з міжнароднай супольнасці паглумішча. Яго жахлівае стаўленне да суайчыннікаў паранейшаму не сустракае супраціву. Кожнаму, хто гляне праўдзе ў вочы, ясна: адзіная прычына, чаму Садам рызыкнуў адмовіцца паставіць сваю дзейнасць пад кантроль ваенных інспектараў ААН, – у тым, што ён актыўна распрацоўвае ЗМП. Мы дакладна не ведаем, на якой стадыі знаходзяцца ягоныя распрацоўкі. Але дазволіць гэтаму працэсу працягвацца з-за лішняе рызыкоўнасці ваеннай акцыі, якая б яго спыніла, было б вялікім глупствам.

Я не прэтэндую на тое, што мне вядомы дакладны баланс прымусовых захадаў, неабходных сёння, каб адхіліць Садама ад улады: каб разлічыць такі баланс, трэба мець доступ да найлепшай разведвальнай інфармацыі. Відаць, дзеля гэтага запатрабуецца буйная групоўка наземных сілаў і прыцэльныя паветраныя ўдары. Але важна адмабілізаваць групоўкі ўнутранай апазіцыі Садаму і аказаць ім дапамогу.

Нарэшце, перасцярога. Нам цяпер не варта спрабаваць акрэсліць канчатковы вынік для постсадамаўскага Іраку. Адной з памылак 1991 году быў перабольшаны страх перад магчымым распадам Іраку, калі будуць зроблены неабходныя захады, каб скінуць ягонага лідэра. У выніку з таго часу курды і шыіты цярпяць шматлікія рэпрэсіі.

У галоўных стратэгічных пытаннях ёсць небяспека лішне разумнічаць. Мы павінны засяродзіцца на тым, чаго мы можам дасягнуць з дапамогай інструментаў, якія маем пад рукой, а потым смела пусціць іх у ход, каб вырашыць пастаўленую задачу. Гэта будзе досыць цяжка.

**The Wall Street Journal**

# Буш супраць Садама

**_Адміністрацыя прэзідэнта Буша заручылася шырокай палітычнай падтрымкаю папераджальных акцыяў супраць рэжыму Садама Хусейна ў Іраку. Паколькі прэзідэнт Буш працягвае настойваць на неабходнасці змены рэжыму ў Іраку, высокапастаўленыя дэмакраты і рэспубліканцы далі згоду на тайныя аперацыі Цэнтральнага разведвальнага ўпраўлення ЗША з мэтаю адхіліць ад улады іракскага кіраўніка._**

Лідэр большасці ў палаце прадстаўнікоў Дзік Армі, рэспубліканец ад штату Тэхас, заявіў карэспандэнту тэлевізійнае сеткі *ABC News*, што падтрымка Іракам міжнароднага тэрарызму зрабіла сп. Садама законным аб'ектам першага ўдару Злучаных Штатаў. «Калі ў нас з'явіцца фактычная магчымасць зрабіць свет больш бяспечным – не толькі Злучаныя Штаты, але ўвесь свет – шляхам забароны такога спонсарства тэрарызму, то я ўпэўнены, што гэта мудры і разважны крок», – сказаў сп. Армі.



У гэтым месяцы прэзідэнт Буш заявіў, што ранейшая палітыка Злучаных Штатаў па стрымліванні дзяржаваў-ізгояў была неэфектыўнаю. Ён абмаляваў новую дактрыну аднабаковых папераджальных ударав па працаўніках, якія маюць зброю масавага паражэння (ЗМП). «Мы павінны перанесці бой на тэрыторыю працаўніка, парушыць ягоныя планы і парыраваць самую сур'ёзную пагрозу, перш чым яна з'явіцца», – сказаў ён, выступаючы ў ваеннай акадэміі ЗША «Вест-Пойнт», але пры гэтым адкрыта пра Ірак не сказаў.

Лідэр меншасці ў палаце прадстаўнікоў Дзік Гефарт, дэмакрат ад штату Місуры, паведаміў, што «некалькі месяцаў назад» для кангрэсу быў праведзены брыфінг у сувязі з тым, што прэзідэнт загадаў ЦРУ ЗША стаць на чале тайнай кампаніі па адхіленні ад улады – а калі спатрэбіцца, то і фізічным знішчэнні – Садама Хусейна ў рамках падрыхтоўкі да ваеннага ўдару па Іраку. Падрабязнасці пра гэтую кампанію ЦРУ былі апублікаваныя ў газеце *The Washington Post* у нядзелю.

Сп. Гефарт сказаў, што згодзен з падыходам адміністрацыі ЗША па прымушэнні Садама выконваць пастанову ААН пра аднаўленне дзейнасці ў Іраку міжнародных інспектараў па ўзбраеннях. «Калі для гэтага спатрэбіцца змена ўраду, хай будзе так, – сказаў ён у нядзелю карэспандэнту *ABC News*. – Мы маем сведчанні таго, што ён (Садам) працягвае распрацоўваць ЗМП дзеля выкарыстання не толькі ў рэгіёне, а, магчыма, ва ўсім свеце».

Адміністрацыя ЗША ўсё яшчэ спрабуе выпрацаваць дакладную стратэгію звяржэння Садама ў гэтым годзе. Прапануюцца разнастайныя варыянты, ад маштабнага наземнага ўварвання ўзброеных сілаў ЗША да ваеннага перавароту, які павінны будуць здзейсніць незадаволеныя рэжымам іракскія афіцэры.

**The Financial Times**

ІЗРАІЛЬ



**Шматкіламетровыя загароды з калючага дроту абкружаюць цяпер тэрыторыю палесцінскай аўтаноміі – ізраільскія вайскоўцы спадзяюцца, што тэрарыстам стане цяжэй пранікаць у краіну. Заходні Бераг. Рамала.**

КРЫМ

## Украіна жадае выселіць расійскі флот

На Украіне рыхтуецца дакумент, які будзе пададзены *NATO* 9 ліпеня – у дзень пяцігоддзя Хартыі аб асаблівым партнёрстве Украіны і Паўночнаатлантычнага альянсу. Згодна з ім, на тэрыторыі краіны не будуць знаходзіцца ваенныя фармаванні чужых дзяржаваў.

Між тым, існуе дамова аб базаванні ў Крыме расійскага флоту, падпісаная ў 1997 годзе на 20 гадоў з правам прадаўжэння. Кіеў хоча датэрміновa гэтую дамову разарваць. У найбліжэйшы час Украіна збіраецца ініцыяваць перамовы з Расіяй па гэтым пытанні. У выніку тры севастопальскія бухты, дзе стаяць расійскія караблі, адыдуць украінскім вайскоўцам. Аднак дамова аб базаванні Чарнаморскага флоту была завязаная на газавыя даўгі Украіны. За тры аддадзеныя бухты Украіне абяцалі рэструктурызаваць 3 мільярды даляраў запазычанасці. Цяпер за Кіевам застаецца каля 1 мільярда даляраў даўгоў. Украіна разлічвае на падтрымку Захаду, бо, на думку ўкраінскага боку, без Украіны сістэма бяспекі Еўропы будзе непаўнавартаснаю.

# Варвары ля варотаў?

**Гвіда ТАБЕЛІНІ,**
**прафесар эканомікі ў Універсітэце Баконі**

**_Люмпен-аўтсайдэры Еўропы ператвараюцца ў інсайдэраў па меры таго, як палітычная сітуацыя на еўрапейскім кантыненце змяняецца на карысць правых сілаў._**

Раней палітычная барацьба ў Еўропе вялася паміж партыямі левага крыла, якія прадстаўлялі інтарэсы рабочых, і партыямі правага крыла, якія прадстаўлялі інтарэсы капіталу. Пасярэдзіне знаходзіліся цэнтрысцкія партыі, якія прадстаўлялі сярэдні клас і пазбягалі ідэалагічных крайнасцяў правых і левых. Сёння ідэалагічныя адрозненні паміж левымі і правымі ўжо не такія выразныя, як раней. Вось жа, улада перайшла ў рукі новага пакалення палітыкаў і новага электарату.

Поспехі правых (папулісцкіх) партыяў можна ў значнай меры аднесці на рахунак промахаў і няўдачаў урадаў левага кшталту. У аснове ж такога зруху палітычных упадабанняў ляжаць несуцяшальныя эканамічныя паказчыкі Еўропы. У Еўропе захоўваецца высокі ўзровень беспрацоўя, тым часам як тэмпы росту прадукцыйнасці зніжаюцца з сярэдзіны 90-х гадоў, што адмоўна адбіваецца на ўзроўні жыцця насельніцтва. Нават далёкія ад эканомікі выбарцы не могуць не адчуваць рэзкага адрознення ад Злучаных Штатаў, дзе рост прадукцыйнасці прыкметна паскорыўся, пачынаючы з сярэдзіны 90-х, а ўзровень беспрацоўя нашмат ніжэйшы, чым у Еўропе. Некаторыя выбарцы пачынаюць думаць: можа, усяму віною – еўрапейскія «дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту», пра якія яны так дбаюць?

Шмат хто з еўрапейскіх выбарцаў адчувае сябе неабароненым. Еўрапейская сацыяльная мадэль, на агульную думку, прадугледжвае ніжэйшыя тэмпы эканамічнага росту пры вышэйшым узроўні сацыяльнай абароны і меншай верагоднасці рызыкі. Але вялікія групы «аўтсайдэраў» (маладых беспрацоўных і тых, хто шукае працу ўпершыню, часовых рабочых, уладальнікаў крамаў і найманых працаўнікоў) не бачаць гэтых перавагаў, бо ці не маюць стабільнай і абароненай працы, ці пазбаўленыя права на страхаванне ад беспрацоўя, ці то занадта маладыя, каб здабыць карысць з дзяржаўнай пенсійнай сістэмы. Гэтыя выбарцы таксама скардзяцца на злачыннасць, пагаршэнне ўмоваў жыцця ў гарадах і г.д.

Шмат хто з «аўтсайдэраў» падтрымаў на апошніх выбарах правыя папулісцкія партыі, і без іхніх галасоў новым правацэнтрысцкім урадам у шмат якіх еўрапейскіх краінах не ўтрымацца. У традыцыйнай палітычнай барацьбе на гэтых «аўтсайдэраў» часта не звaжалі, а іхнім патрабаванням аддавалася альбо замала ўвагі, альбо не аддавалася ўвогуле ніякае. І раптам па ўсёй Еўропе яны сталі палітычнымі арбітрамі.

Жаданні гэтых выбарцаў, якія раптам здабылі ўплыў, надзвычай ясныя: скарачэнне іміграцыі, барацьба са злачыннасцю, большыя эканамічныя магчымасці, але і большая абароненасць ад эканамічнай рызыкі і міжнароднай канкурэнцыі. Палітыкі, якія іх прадстаўляюць, не маюць дастатковага кіраўнічага досведу, часам бываюць тэхнічна непадрыхтаванымі да кіравання краінаю і з падазрэннем ставяцца да тэхнакратаў і бюракратаў, асабліва тых, хто засядае ў Брусэлі. У шмат якіх пытаннях пазіцыі папулісцкіх партыяў супярэчаць традыцыйным, накіраваным на інтарэсы рынку і капіталу палітычным платформам правацэнтрысцкіх партыяў, якія ўжо замацавалі свае становішча.

Некаторыя з патрабаванняў гэтых выбарцаў цалкам разумныя і бясспрэчна павінны прывесці да палепшанняў у дзяржаўнай палітыцы. Так, на большай частцы Еўропы сапраўды трэба больш эфектыўна змагацца са злачыннасцю і сур'ёзна перагледаваць і прадухіляць незаконную іміграцыю.

Бальшыні еўрапейскіх краін трэба перагледзець падставовыя прынцыпы «дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту». Працоўнае жыццё людзей павінна быць падоўжана, дзяржаўныя пенсіі часта бываюць занадта шчодрыя, а рынкі працы занадта нягнуткія. Традыцыйныя пракапіталістычныя правыя партыі віталі б такія рэформы. Аднак рэформа «дзяржавы ўсеагульнага дабрабыту» для правых папулісцкіх сілаў не мае прыярытэту.

Найбольшую небяспеку гэтыя сілы ствараюць для еўрапейскай інтэграцыі. Новыя папулісцкія і нацыяналістычныя партыі з падазрэннем ставяцца да Еўрапейскай Супольнасці ўвогуле і да пашырэння ЕЭС, у прыватнасці. Гэтае варожае стаўленне ўзнікла ў самы няўручны момант, калі Еўропа знаходзіцца ў разгары амбітных і складаных канстытуцыйных рэформаў. Больш за тое, пашырэнне Еўропы, хоць і непазбежнае, – пакуль што яшчэ не здзейснены факт.

У Канвенцыі пра будучыню Еўропы абмяркоўваюцца спосабы інтэграцыі працэсаў выпрацоўкі палітычных рашэнняў па пытаннях унутранай бяспекі, іміграцыі, некаторых элементах супольнай знешняй палітыкі і знешняй бяспекі. Але лёс Канвенцыі непрадказальны, бо вырашальную ролю ў яе лёсе можа сыграць апазіцыя, прадстаўленая палітычнымі групамі, якія прыйшлі да ўлады нядаўна.

**© Project Syndicate**

СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

## Цікавая ініцыятыва Туркменбашы



Туркменію чакае надзвычайная падзея. Каля 200 асабнякоў, якія належалі высокім чыноўнікам, будуць перададзены нямаёмным і шматдзетным жыхарам Ашхабаду. Пра гэта заявіў прэзідэнт Туркменіі Сапармурат Ніязаў. Выступаючы на гэтым тыдні праз нацыянальнае тэлебачанне, прэзідэнт адзначыў, што ён ужо зацвердзіў спісы людзей, якія перасяляцца ў гэтыя дамы, але за патрабаваў ад пракуратуры, Камітэту нацыянальнай бяспекі і мэрыі Ашхабаду яшчэ раз удакладніць справядлівасць складзеных спісаў.

Ніязаў нават назваў прозвішчы кіраўнікоў, чые дамы канфіскавала дзяржава. Сярод іх, у прыватнасці, былы віцэ-прэм'ер, кіраўнік МЗС (цяпер знаходзіцца ў апазіцыі за мяжой), былы кіраўнік цэнтральнага банку, былыя міністры, банкіры, функцыянеры рознага ўзроўню. Прэзідэнт Туркменістану адзначыў, што ўсяго ў Ашхабадзе каля 300 асабнякоў, пабудаваных на незаконна атрыманыя грошы. Гэта значыць – для паляпшэння жыллёвых умоваў беднага народу ёсць запас у 100 дамоў.

## У Расіі расце беспрацоўе

Агульная колькасць беспрацоўных у Расіі на канец 2002 году прагназуецца ў памеры 6,5 мільёнаў чалавек. Згодна з прагнозам эканамічнага развіцця, колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных на канец году складзе 1,3 мільёна. Варта зазначыць, што ў траўні колькасць беспрацоўных у Расіі складала 5,9 мільёна чалавек, а афіцыйна зарэгістраваных – 1,24 мільёна. Узровень агульнай колькасці беспрацоўных у адносінах да эканамічна актыўнага насельніцтва на канец 2002 году ацэньваецца ў 9,1% (у траўні – 8,2%), колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных – 1,8% (у траўні – 1,7%).

МАНУМЕНТЫ

## У гонар візіту Папы



**У Кіеве ў гонар гадавіны візіту Папы Яна Паўла II ва Украіну на тэрыторыі Апостальскай нунцыятуры пастаўлена бронзавая статуя рымскага пантыфіка, якую адкрыў на ўрачыстай цырымоніі Сакратар па міжурадавых сувязях Ватыкану кардынал Жан-Луі Таран. Вага скульптуры – 800 кг, вышыня – 2 метры. Помнік узведзены пры фінансавай дапамозе вернікаў розных канфесіяў – каталікоў, праваслаўных, іудзеяў і мусульманаў.**
**Супраць усталявання помніка пратэставалі толькі каля 30 прадстаўнікоў Украінскага экзархату Рускай праваслаўнай царквы.**
**Манументальны помнік Папу Рымскаму быў адначасна адкрыты і ў Львове.**

# Касцёлак у Серабранцы

*За 82 апошнія гады ў Мінску ўпершыню з'явіўся новы каталіцкі храм*

***У мінулы панядзелак, калі ўся рымска-каталіцкая царква адзначала дзень святога Яна Хрысціцеля, у сталічным мікрараёне Серабранка пачаліся штодзённыя набажэнствы ў новазбудаванай капліцы ў імя гэтага святога. Такім чынам, упершыню амаль за стагоддзе (з таго часу, як 21 лістапада 1910 году быў асвечаны мінскі касцёл св. Сымона і св. Алены) у беларускай сталіцы з'явіўся новы каталіцкі храм.***

Напярэдадні, у нядзелю, на ўрачыстым адкрыцці Божага дома – пад чырвоным дахам з высокім шпілем і крыжам наверсе – святары стрымана і афіцыйна называлі яго капліцаю, а радасныя парафіяне – касцёлкам. Ніхто, аднак, не памыляўся. Дзякуючы арыгінальнаму архітэктурнаму праекту, невялікі па сваіх памерах будынак можа без цеснаты ўмясціць 300 чалавек. Светлыя вокны, высокае скляпенне і добрая акустыка пад ім дазваляюць параўноўваць гэтую сталічную капліцу са звычайным касцёлам сярэдніх памераў.



Фото В.Шлапака

Пробашч парафіі Яна Хрысціцеля Ігар Лашук распавёў, што ўзводзіць капліцу пачалі летась у жніўні. Будаўнікі вельмі спяшаліся, бо гарадскія ўлады не пайшлі насустрач вернікам і не вызвалілі іх ад зямельнага падатку, а гэта вымагала плаціць за незавершанае будаўніцтва 700 000 рублёў штомесяц.

Наконт грошай, якія бяруцца ў бюджэт з людскіх ахвяраванняў, у каталікоў ёсць свае прэтэнзіі. Дзяржава забірае сродкі ў ашчадайных прыходах, затое траціць вялізарныя сумы на барацьбу з алкагалізмам і наркаманіяй. Дапамагаць жа альбо хоць не перашкаджаць узводзіць храмы – гэта самае простае, што можа зрабіць дзяржава, каб спыніць маральнае разбурэнне грамадства і асабліва маладога пакалення. Дарэчы, цягам апошніх двух гадоў у парафіі святога Яна Хрысціцеля на арандаваных плошчах аднаго з ЖЭСаў працуе моладзевы каталіцкі цэнтр. Тры сястры-салезіянкі апякуюцца дзецьмі з так званых няшчаслівых сем'яў – духоўна няразвітых і абдзеленых матэрыяльна. У каталіцкі цэнтр яны прыходзяць штодня па вечарах, каб пагуляць у настольны тэніс, валейбол альбо проста пабачыцца з сябрамі. Сталых наведнікаў тут каля 300 чалавек. Усе яны наведваюць цэнтр з пісьмовага дазволу бацькоў. З каталіцкай моладдзю і дзецьмі ладзяцца святочныя сустрэчы на рэлігійныя святы, а таксама вывучаецца катэхізм. Бываюць нават дыскатэкі і забаўляльныя праграмы.

Зямельны надзел пры капліцы і папярэдняя дамоўленасці з уладаю па яго выкарыстанні дазваляюць парафіі Яна Хрысціцеля пабудаваць тут у блізкай будучыні сапраўдны касцёл. Пробашч Ігар Лашук кажа пра будынак у тры разы большы, чым капліца. А неабходнасць развіцця духоўнага асяродку ў жылых масівах сталіцы святар тлумачыць адпаведнымі высновамі.

– Мы падлічылі, – кажа айцец Ігар, – што цяперашнім часам у Мінску павінны паўстаць разам з існуючымі 35 каталіцкіх прыходаў. Мінск – пятая частка насельніцтва Беларусі, і калі ва ўсёй рэспубліцы каля 450 парафіяў, то 35 храмаў у сталіцы – гэта мінімальная патрэба.

Ігар Лашук адзначыў, што зараз выдзяляецца зямельны надзел пад будаўніцтва каталіцкага касцёла ў Лошыцы. Закладзены падмурак пад капліцу ў Бараўлянах. Вядуцца перамовы з Міністэрствам культуры наконт перадачы будынка тамтэйшага касцёла па прызначэнні і пераносе з яго музея ў Лошыцкую сядзібу.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# «Рэвалюцыя» ў аўтакефальнай царкве

**На пачатку чэрвеня ў ЗША адбыўся Надзвычайны Сабор Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Адбылася змена ўлады. Абраны новы мітрапаліт Аляксандр, якому 38 гадоў. Вырашана навязаць сувязі з Усяленскім патрыярхам Варфаламеем. Прыняты зварот да беларускіх уладаў.**

Епіскап Аляксандр (штат Нью-Джэрсі) зазначыў, што Сабор скліканы з нагоды надзвычайнай сітуацыі ў БАПЦ: «Парушаецца асноўны царкоўны прынцып саборнасці. Саборы не склікаліся 18 гадоў. Людзі, якія называюць сябе беларускімі патрыётамі, утрывалілі ў жыцці БАПЦ заганную сістэму, прыдуманую бальшавікамі – калі ў царкве кіруе не святарства, а свецкія асобы з царкоўнай рады. Трагедыя Царквы ў тым, што яна стала арэнай палітычнай барацьбы і фінансавых інтарэсаў розных кланаў».

Было зазначана, што першаіерарх мітрапаліт Мікалай ужо мае 85 гадоў і мала што вырашае. У царкоўныя справы ўмешваецца Рада БНР, падкрэсліў епіскап. Цяпер прыярытэтам стане царкоўнае будаўніцтва ў Беларусі. Бо шмат якія прыхільнікі аўтакефальнай царквы ў поўным непаразуменні: чаму за гады існавання Рэспублікі Беларусь БАПЦ нічога не зрабіла, каб стварыць свае прыходы на Бацькаўшчыне?

Па словах удзельніка Сабора протаіерэя Яна Спасюка (пас. Пагранічны Берастаўіцкага раёну), за ўсе часы незалежнасці мітрапаліт Мікалай не падтрымаў у РБ ні духоўна, ні матэрыяльна ніводнага прыходу. Сёлета мітрапаліт параіў прадстаўнікам прыходаў з Беларусі звяртацца на Украіну і не чакаць ад яго ніякай дапамогі. На думку а. Яна, паміж Мікалаем і патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам магла існаваць дамоўленасць, каб БАПЦ не спрабавала трапіць на тэрыторыю РБ. Ускосна пра гэта сведчыць перапіска, якая трывае паміж іерархамі ўсе гэтыя гады. На пачатку 90-х гадоў Мікалай прыязджаў у Беларусь. Яны сустракаліся з Філарэтам і нават праводзілі сумесныя набажэнствы.

Не зважаючы на абыякавасць кіраўніцтва аўтакефальнай царквы, на тэрыторыі Беларусі на сённяшні дзень узнікла 70 прыходаў, якія лічаць сябе духоўна прыналежнымі да БАПЦ. Прыхаджане жадаюць афіцыйна зарэгістраваць свае прыходы і годна прадстаўляць у Беларусі аўтакефальную царкву. Гэты «рух знізу» ўзнік з пратэсту супраць манаполіі ў Беларусі Рускай праваслаўнай царквы, якая ўсяляк падтрымлівае рэжым Лукашэнкі. Па сведчанні а. Яна, дзесяткі святароў гатовыя перайсці з РПЦ у БАПЦ (ён называе нават канкрэтную лічбу). Яны толькі чакаюць, каб аўтакефальная царква атрымала рэгістрацыю.

На пасаду новага мітрапаліта на Саборы быў прапанаваны епіскап Ян (штат Каліфорнія), між іншым, серб па паходжанні. Сам ён, аднак, заявіў, што галавой Царквы варта абраць епіскапа-беларуса. І мітрапалітам БАПЦ быў аднагалосна абраны епіскап Аляксандр. Яму нададзены тытул Найблажэннага мітрапаліта Кліўлендскага і Гродзенскага. Прысутныя падзякавалі першаіерарху Мікалаю за ягонае служэнне Царкве.

Удзельнікі Сабору зазначылі, што былая Рада царквы скампраметавала сябе, прысвоіла сабе ўладу, парушыла каноны. Быў абраны новы склад Рады. У ёй цяпер прадстаўнікі ЗША, Англіі, Францыі і Беларусі. Створана камісія, каб вывучыць дзейнасць былых кіраўнікоў царкоўнай кансісторыі. Вынікі яе працы будуць абнародаваны. Айцец Ян Спасюк у нашай гутарцы патлумачыў, што БАПЦ мела ў ЗША мала прыходаў. Аднак, паводле амерыканскіх законаў, царква мае ўсялякія падаткавыя палёгкі. Яна мела права праводзіць розныя забаўляльныя мерапрыемствы, нават розыгрышы латарэі. Прыбыткі ад гэтага былі вялікія. Аднак гэтыя грошы не выдаткоўваліся на царкоўныя патрэбы.

На Саборы быў прыняты зварот да беларускіх уладаў, а таксама да мітрапаліта Філарэта. З ім кіраўніцтва БАПЦ спадзяецца дамовіцца, каб ён не супрацівіўся існаванню на Беларусі аўтакефальнай царквы. Зараз будуць рыхтавацца дакументы на рэгістрацыю БАПЦ у РБ. Хоць, уважаючы на прыняцце ў першым чытанні новага, больш жорсткага варыянта закону аб свабодзе веравызнання, гэтая працэдура выглядае вельмі праблематычнаю. Калі беларускія ўлады адмовяць, БАПЦ будзе рэгістравацца ў ЗША. Прэцэдэнт з падобнай рэгістрацыяй – Чарнагорскай царквы – ужо існуе. У Штатах зарэгістраваны Фонд адраджэння БАПЦ. У жніўні епіскап Ян наведае прыходы ў Беларусі. Мітрапаліт Аляксандр таксама прыедзе ў РБ, але пазней.

Я. Спасюк расказаў пра цікавую сустрэчу ў Хайленд-Парку, дзе адбыўся Сабор. Прывітацца да яго прыязджаў былы гродзенец І.Грышкевіч. Два гады таму Я.Спасюк спрабаваў судзіцца за абразу свайго гонару і годнасці з епіскапам Гродзенскім і Ваўкавыскім Арцеміем. Старшыня суду Ленінскага раёну Гродна І.Грышкевіч доўга цягнуў, але іск Спасюка да епіскапа так і не прыняў. Неўзабаве, атрымаўшы «зялёную карту», кіраўнік Ленінскага суду з'ехаў у ЗША, дзе працуе начным вартаўніком. Спасюку казалі, што тамака ён нават хацеў стаць святаром аўтакефальнай царквы, але яму адмовілі. Вось такія метамарфозы. Я.Спасюку І.Грышкевіч патлумачыў у Штатах наконт ягонага колішняга іску: вы ж разумееце, у якой краіне жывяце, рашэнне пра адмову Вам было загадзя прынята... Карацей, бацюшка з БАПЦ нават не мог разлічваць на падачу іску супраць епіскапа РПЦ. А як будзе цяпер?

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

Неўзабаве пасля Сабору, 20 чэрвеня, мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай царквы ўладыка Мікалай памёр. Яму было 85 гадоў.

Яго свецкае імя – Міхал Мацукевіч, нарадзіўся ён у 1917 годзе. На пачатку Другой сусветнай вайны быў мабілізаваны ў Войска польскае, у 1939 годзе ўдзельнічаў у абароне Брэсцкай крэпасці, быў цяжка паранены. Пры канцы вайны служыў у польскім войску ў Англіі. Ад 1951 году Міхал Мацукевіч жыў у Канадзе. На святара вучыўся ў Калегіі святога Андрэя ў Вініпэгу. Шмат гадоў уладыка Мікалай ачольваў Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву.

# Закон, які падзеліць вернікаў на касты

## *Цікава, чым праваслаўныя лепшыя за пратэстантаў?*

***У апошні час праблема свабоды веравызнанняў у Беларусі, вырашаная на пачатку 1990 гадоў, зноў абвастрылася. Грамадская думка занепакоена падрыхтоўкай новых заканадаўчых актаў, якія абмяжуюць для мноства людзей свабоду сумлення***

У панядзелак прайшлі грамадскія слуханні па пытанні прыняцця новага закону «Аб свабодзе веравызнанняў». На слуханнях прысутнічалі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, сябры Камісіі па правах чалавека, прадстаўнікі ўсіх рэлігійных канфесій, навукоўцы, юрысты, прадстаўнікі грамадскасці і журналісты. Непасрэдныя распрацоўшчыкі законапраекту – Камітэт па справах рэлігій і Нацыянальны цэнтр заканапраектнай дзейнасці пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Другое чытанне закону было прызначана на 26 чэрвеня – у выпадку прыняцця закону некаторыя рэлігійныя арганізацыі будуць вымушаныя спыніць сваю дзейнасць.

На слуханнях выступілі юрысты, якія назвалі шэраг недасканаласцяў новага закону, няўзгодненасці яго з іншымі нарматыўнымі дакументамі і прававымі актамі рэспублікі. Акрамя таго, закон супярэчыць міжнароднаму пакту аб палітычных і грамадзянскіх правах, дзе сказана, што «кожны чалавек мае права на свабоду думкі, сумлення і рэлігіі», і арт. 8 «Сусветнай дэкларацыі правоў чалавека». Юрыст Артур Ліўшыц паведаміў пра рашэнне V Сусветнага кангрэсу Міжнароднай асацыяцыі рэлігійнай свабоды (адбыўся на Філіпінах 10–13 чэрвеня 2002 году), запісанае ў «Дэкларацыі занепакоенасці»: «У выпадку прыняцця такога закону рэлігійная свабода ў Беларусі будзе істотна абмежаваная».

> *26 чэрвеня Палата Прадстаўнікоў пад ціскам грамадскага абурэння вырашыла перанесці абмеркаванне Закону на восень*

Беручы пад увагу ўсе акалічнасці, можна сцвярджаць, што фактычна вернікі сталі закладнікамі вялікай палітычнай гульні. З прыняццем закону, які ўвядзе падзел на рэлігійную большасць і меншасць, багата вернікаў апынецца «па-за законам».

Праца ў Палаце прадстаўнікоў вялася схавана, закрыта і па-за грамадскім абмеркаваннем. Дэпутаты, якія прысутнічалі на слуханнях, самі прызналі, што не кожны з іхніх калег здольны зразумець гэтую тэму. Намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў на адным з паседжанняў пра закон «Аб свабодзе веравызнання» сказаў, што яго «трэба хутчэй прымаць, пакуль не сфармавалася грамадская думка». Гэта можа прывесці да таго, што мы зноў вернемся да скажонага разумення рэлігіі. Асаблівая небяспека ў тым, што гэтае разуменне прыйдзе ва ўладныя структуры і органы дзяржаўнага кіравання. (Вось, напрыклад, адно з глупстваў савецкай сістэмы ў адносінах да рэлігіі: каб правесці памінальны малебен на могілках па нябожчыку, трэба было падаць заяву за 14 дзён.)



Пустыя месцы ў часе грамадскіх слуханняў

Паводле новага закону, для таго, каб арганізаваць рэлігійную абшчыну, неабходна 20 чалавек. Супраць гэтага актыўна выступаюць габрэйскія рэлігійныя суполнасці, бо гэта пярэчыць іх традыцыйнаму ладу. Дарэчы, у сталінскія часы 20 чалавек у рэлігійнай абшчыне было дастаткова для таго, каб страціць рэгістрацыю.

Рэлігійная цэнзура, згодна з новым законам, робіцца больш жорсткаю. Кнігі на рэлігійную тэматыку перад друкам і распаўсюджваннем абавязкова будуць павінны прайсці камісію, прычым гэта тычыцца і ўнутрыцаркоўнай літаратуры. Аднак хто будзе праводзіць гэтую рэлігійную цэнзуру? Пытанне, якое вісела ў паветры, але так і не знайшло адказу.

Таксама ўводзіцца паняцце тэрыторыі дзейнасці рэлігійнай канфесіі. Гэта прывядзе да таго, што прадстаўнікі нават зарэгістраванага рэспубліканскага аб'яднання не змогуць правесці службу ці малебен у горадзе, дзе не існуе іх рэлігійнай абшчыны.

Запрашаць замежных прапаведнікаў паводле нормаў новага закону стане немагчымым. Трэба зазначыць, што ўжо цяпер, каб запрасіць ксяндза або равіна з-за мяжы, існуе шмат перашкодаў. А з прыняццем закону візіт патрыярха РПЦ Алексія II павінны будзе разглядацца як візіт «замежнага прапаведніка».

Аднак праваслаўную царкву гэта не вельмі клапоціць, бо ў выпадку прыняцця закону прывілеяваны стан РПЦ будзе замацаваны заканадаўча. Як зазначыў на слуханнях Якаў Гутман, старшыня Сусветнай асацыяцыі беларускіх габрэяў, «гэты закон выдзяляе сярод роўных – раўнейшых. Арт. 16 Канстытуцыі РБ кажа, што «ўзаемаадносіны дзяржавы і рэлігійных арганізацый рэгулююцца законам з улікам іх уплыву на фармаванне духоўных, культурных і дзяржаўных традыцый беларускага народа». Што маецца на ўвазе пад словамі «беларускі народ» і хто з дэпутатаў патлумачыць, якая рэлігія ўплывала на яго фармаванне больш?» Відавочна, адказ на гэтае пытанне трэба шукаць у рытарычных развагах пра *«исконно православную землю»*, падмацаваных сумнеўнымі вынікамі сацыялагічных даследаванняў.

Разам з экспансіяй Рускай праваслаўнай царквы для нашай дзяржавы рэальна адкрываецца небяспека экспансіі рускіх нацыянал-сацыялістычных, нацыяналпатрыятычных і антысеміцкіх настрояў, якія натхняюцца Рускай праваслаўнай царквою і выходзяць ад яе. Дарэчы, тое, што юрысты Патрыярхіі бралі ўдзел у распрацоўцы новага закону і што ён напісаны спецыяльна «пад РПЦ», нават не хаваецца.

Тым часам распрацоўшчыкі закону сцвярджаюць, што ён прызначаны выключна дзеля супрацьдзеяння таталітарным і дэструктыўным сектам. Аднак трэба адзначыць, што яго дзеянне распаўсюджвацца толькі на зарэгістраваныя рэлігійныя структуры, тым часам як агульнавядома, што дэструктыўныя секты не рэгіструюць сваю дзейнасць. Напрыклад, цяжка ўявіць сабе сатаністаў, якія панясуць у Камітэт па справах рэлігій статут рэлігійнай суполкі, які прадугледжвае чалавечыя ахвяры і здзек з хрысціянскіх могілак.

Прысутнымі неадназорва падкрэслівалася, што закон скіраваны супраць нявялікіх пратэстанцкіх і габрэйскіх суполнасцяў, асабліва ў дробных гарадах і мястэчках. Пастар рэфарматарскай баптысцкай царквы Рыгор Вязоўскі мяркуе, што «сёння ўладзе непатрэбны непадкантрольныя рэлігійныя арганізацыі. Якраз таму дзяржава жадае ажыццявіць нагляд за вернікамі,ператварыўшы іх у прыладу паклёпу і даносу».

Удзельнікі грамадскіх слуханняў прынялі зварот да дэпутатаў абедзвюх палат парламенту і прэзідэнта краіны з прапановай накласці вета на закон, які цяпер прымаецца, забяспечыць яго публічнае абмеркаванне сярод вернікаў і правесці асноўныя палажэнні законапраекту ў адпаведнасць з існуючымі міжнароднымі стандартамі.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

### 28 чэрвеня

**1577.** У нямецкім горадзе Зігене нарадзіўся фламандскі мастак Пітэр Рубенс. Сучаснікі называлі яго каралём мастакоў і мастаком каралёў. Апрача таго, Рубенс выявіў сябе як архітэктар, нумізмат і дыпламат.

**1712.** Нарадзіўся французскі асветнік і энцыклапедыст Жан-Жак Русо. Расійскі пісьменнік Леў Талстой пісаў, што самы вялікі ўплыў на яго зрабілі Русо і Евангелле.

**1997.** Адбыўся адзін з самых скандальных баксёрскіх двубояў сярод прафесіяналаў, калі Майк Тайсан адкусіў край вуха ў свайго праціўніка Эвандара Холіфілда.

### 29 чэрвеня

**1922.** Спявак Фёдар Шаляпін паехаў на гастролі і больш ніколі ўжо не вярнуўся ў Расію.

**1972.** Нарадзілася амерыканская школьніца Саманта Сміт, якая напісала ліст генеральнаму сакратару ЦК КПСС Юрыю Андропаву і прыехала ў СССР па яго запрашэнні. У 1985 годзе Саманта Сміт трагічна загінула ў авіякатастрофе.

### 30 чэрвеня

**1792.** У Парыж з «Баявой песняй Рэйнскай арміі» ўвайшоў паўстанцкі батальён з Марселя. Гэтая песня потым стала называцца «Марсельезай» і зрабілася гімнам Францыі.

**1872.** Нарадзіўся французскі вынаходнік Луі Берліо. Ён сканструяваў аўтамабільныя фары і іншыя аўтапрылады. Пасля аўто Берліо заняўся авіяцыяй, ствараючы эксперыментальныя мадэлі, напрыклад, самалёт з хваставым апярэннем спераду. У 1909 годзе вынаходнік першым у свеце пераляцеў цераз праліў Ла-Манш.

### 1 ліпеня



**1867.** У гэты дзень аб 11-ай раніцы мэр Атавы зачытаў перад народам, што сабраўся перад гарадской ратушай, дакумент пра абвяшчэнне новай дзяржавы. Канада стала самакіраваным дамініёнам Вялікабрытаніі. Пакрысе канадская тэрыторыя пачала ўзбуйняцца. Апошнім да Канады далучыўся ў 1949 годзе Ньюфаўндленд. Сённяшні дзень у канадцаў – нацыянальнае свята.

### 2 ліпеня

**1877.** Нарадзіўся пісьменнік Герман Гесэ, нобелеўскі лаўрэат 1946 году, аўтар такіх твораў, як «Стэпавы воўк» і «Гульня шкляных пэрлаў».

**1947.** Як сцвярджаюць уфолагі, увечары за 20 міляў ад гарадка Расуэл у штаце Нью-Мексіка ў ЗША пацярпеў аварыю іншапланетны карабель. На месцы катастрофы былі знойдзеныя трупы маленькіх цёмнаскурых чалавечкаў.

### 3 ліпеня

**1886.** Карл Бенц з Мангейму здзейсніў першы ў свеце выезд на аўтамабілі ўласнай канструкцыі, дасягнуўшы хуткасці 16 км/г.



**1971.** Памёр рок-легенда Джым Морысан. Лідэр гурта *Doors* памёр у Парыжы ад сардэчнага прыступу і пахаваны на могілках Пер-Лашэз. Паколькі пра смерць да пахавання не паведамлялася, фаны музыкі дагэтуль упэўненыя, што ён жывы, а хаўтуры былі несапраўдныя.

### 4 ліпеня

**1547.** Памёр Барбароса Хаірадзін, вядомы турэцкі мараплаўца і пірат, які кантраляваў амаль усё ўзбярэжжа Алжыру. Пасля гібелі свайго старэйшага брата ён пераняў у спадчыну буйную пірацкую флатылію з некалькіх тысяч чалавек, абвясціў сябе Барбаросам і прызнаў патранат Асманскай імперыі. Турэцкі султан Селім I прызначыў яго галоўнакамандуючым усяго свайго флоту і берлербеем («эмірам эміраў»).

**1862.** Падчас пікніку англійскі матэматык Чарльз Доджсан пачаў распавядаць Алісе Лідэл гісторыю пра дзяўчынку, што пабегла за трусом у Краіну цудаў. Дзяўчынка папрасіла, каб ён запісаў усю гісторыю. Гэтак Доджсан пад імем Льюіса Кэрала напісаў кніжку «Аліса ў Краіне цудаў».

**1927.** Нарадзілася італьянская актрыса Джына Лолабрыджыда, выканаўца галоўных роляў у фільмах «Фанфан-цюльпан», «Сабор Парыжскай Божай Маці».

**1987.** Марціна Наўрацілава шосты раз запар выйграла Уімблдонскі турнір. Апрача выдатных перамог, Наўрацілава вядомая ў свеце тэнісу сваімі лесбійскімі схільнасцямі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 28 чэрвеня – 4 ліпеня

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.*



**АВЕН.** У пятніцу лепш абысці бокам месцы зграмаджэння аўтамабіляў і людзей, асабліва моладзі. Але ў гэты дзень вы можаце сустрэцца з чалавекам, чыё поле спрыяе вашаму поспеху не толькі ў каханні, але і ў прыцягненні грошай. Абуджаюць да жыцця і дораць натхненне тэатр, розныя формы творчасці, мастацтва.



**ЦЯЛЕЦ.** Асцерагайцеся яркіх жарсцяў і спрэчак у пятніцу: павышана верагоднасць цялесных пашкоджанняў на глебе рэўнасці або рознагалоссяў. А ў выходныя дні чым болей і вы расставіце сетак у фінансавых аперацыях і гандлі і чым граматней гэта зробіце, тым багацейшы акажацца ўлоў да серады. Пры гэтым усё трэба рабіць хутка.



**БЛІЗНЯТЫ.** Канфліктны і катастрафічны дзень – пятніца, таму не бярыцеся за тысячу справаў адразу і не бяжыце на злом карку на дарогу. Але перад вамі адкрываецца багата шляхоў, прыходзіць удалы час, каб праводзіць сходы, перамовы, вучэбныя мерапрыемствы.



**РАК.** Вам гатовы прапанаваць выгадную справу або давесці да канца пачаты раней перспектыўны працэс. Пакуль што граюць ролю асабістыя сімпатыі, ёсць сэнс пасяшацца, але толькі не ў пятніцу. Дыета, каб пазбавіцца ад лішняй вагі, можа прайсці лягчэй, чым звычайна.



**ЛЕЎ.** Толькі ад вас залежыць удача ў каханні, вы здатныя выйсці з любоўнага трохкутніка, і чым прыгажэй гэта атрымаецца – тым лепей. У цэлым высокі шанец шчаслівага збегу абставінаў у той галіне, якая вас цікавіла тыдні тры назад. Толькі непажадана ўмешвацца ў гульні ўплывовых асобаў ці органаў улады – можаце апынуцца ў пройгрышы.



**ПАННА.** Усё валіцца з рук у пятніцу, лепей расслабіцца, заняцца закулісным вырашэннем усіх спрэчных пытанняў. Шукайце дзеля гэтага жанчыну або грошы. Нехта з блізкіх рызыкуе, але справа ідзе аб выжыванні, калі дзейнічаюць іншыя законы. Някепска было б вам паклапаціцца пра іхную бяспеку.



**ШАЛІ.** Выдатная пара, каб выправіцца ў падарожжа ў кампаніі ці актыўна шырыць сферы ўплыву, рухацца ўсё вышэй; але ў пятніцу пажадана прытармазіць. У родным краі шмат нараканняў можа быць выказана ў ваш адрас: будуць і абвінавачанні, і памілаванне, але вынік не прадвызначаны.



**СКАРПІЁН.** Калі не хочаце трапіць пад руку кішэннаму злодзею ў пятніцу, сачыце за сабою ў месцах зграмаджэння людзей. Да чацвярга ў выніку аб'яднання ці нядаўняга пачатку супрацоўніцтва будзе пастаўлена кропка над «і» ў адносінах. Вы адкрыты грамадству, вашыя ўчынкі актыўна абмяркоўваюцца.



**СТРАЛЕЦ.** Узмацняецца дух супрацоўніцтва, усё часцей чуваць спрэчкі, дыспуты, не ўлічваюцца нават статус і асоба. Шчырая атмасфера часам прымае перабольшаныя формы, могуць разгарэцца бітвы за аўтарытэт і ўладу.



**КАЗЯРОГ.** У пятніцу правакуюцца сваркі, нестыкоўкі і адкрытыя «падстаўкі». Але вашыя намаганні не прападаюць дарма, верагодна ўзнагарода. Прыземлены, разумовы падыход station ўча адбіваецца на практычнасці ў рэалізацыі ідэяў або твораў, на адчуванні ўласнае каштоўнасці.



**ВАДАЛІЎ.** Вашаму нядаўняму раману ці ідэальным стасункам з дзецьмі пагражае сур'ёзная сварка. Усё роўна прызначайце спатканні, заключайце саюзы, шлюбы, заручыны, – тады яны будуць мець перспектыву. Верагодна, нехта пазайздросціць, у рабочым калектыве наспявае смута.



**РЫБЫ.** Няпростыя абставіны як дома, так і на працы. Ідзіце да людзей, прымайце дапамогу родных і блізкіх, і тады здароўе дазволіць вытрымаць перагрузкі. Пабытовыя ўмовы паляпшаюцца, можна заняцца рамонтам ці перасездам. З аўторка да чацвярга мужчыны будуць змагацца не толькі за сферы ўплыву, але і за жанчын.






Кільская рэгата ў Германіі – традыцыйнае свята ветразёвага спорту. Сёлета яна сабрала 5 000 спартсменаў і 2 000 караблёў. Казачнае відовішча прывабіла дзесяткі тысяч цікаўных.

# Французскія жарты

Французскія тэлеканалы і газеты апублікавалі загадкавую рэкламную аб'яву, якая выклікала ў мноства спажыўцоў панічныя пачуцці.

У рэкламе паведамлялася: «У адным з прадуктаў, які шырока выкарыстоўваецца, знойдзены сляды сінільнай кіслаты, ртуці, ацэтону і аміяку». Ніякага каментару не было, але прапаноўвался звярнуцца па спецыяльным бясплатным тэлефоне даверу, каб атрымаць тлумачэнні.

Тысячы людзей пачалі тэлефанаваць, баючыся, што гаворка можа ісці пра нейкія прадукты харчавання. Усе, хто дазваніўся, атрымалі інфармацыю: аб'ектам рэкламы былі цыгарэты. Гэтая прапагандысцкая акцыя стала часткай шырокай праграмы па аздараўленні нацыі, што праводзіцца нацыянальнай сістэмай страхавання здароўя і інстытутам здароўя і папярэджання захворванняў. Кошт кампаніі ацэньваецца ў 4,4 мільёна даляраў.

ТАЯМНІЦЫ

# Касмадром іншапланецянаў

**Дзевяць кітайскіх вучоных рыхтуюцца да экспедыцыі ў маланаселены раён на захадзе Кітая, дзе знаходзіцца загадкавая старажытная пабудова.**

Узвышша ў выглядзе піраміды вышынёй 50–60 метраў месціцца каля возера. У сярэдзіне «піраміды» ёсць паглыбленне, два іншыя абвалілся. Вакол захаванага паглыблення – трубы чырвона-карычневага колеру, такога ж, як і камяні навакол. Камяні і трубы маюць незвычайную форму. Узоры матэрыялу, узятыя для экспертызы, здзівілі тым, што каля 8% іхнага складу не паддаюцца ідэнтыфікацыі. Кітайскія даследчыкі высунулі гіпотэзу, што піраміда магла служыць «вежай» для старту міжпланетных караблёў.

Дарэчы, яшчэ ў 1938 годзе кітайскі археолаг Чы Путэ знайшоў у пячорах старажытныя пахаванні. На сценах пячор былі вывы істотаў у шлемах, падобных да касманаўтаў, а таксама знакі нябесных зорак. У магілах адшукалі 716 каменных дыскаў, якія нагадваюць па форме музычныя кружэлкі з круглымі дзіркамі ў цэнтры. Шкілеты, пахаваныя ў магілах, розніліся ад звычайных людзей – яны належалі маларослым істотам з вялікімі чарапамі. На каменных «кружэлках» знаходзіліся запісы, недаступныя расшыфроўцы. У 1962 годзе пекінскі прафесар Чу Уняо абвясціў, што яму ўдалося адкрыць тайну шыфра. Паводле яговых словаў, запісы апавядалі пра катастрофу касмічнага карабля, якая адбылася 12 тысяч гадоў таму. Экіпаж мусіў застацца на Зямлі.

Цяперашняя экспедыцыя плануе даследаваць паходжанне піраміды.

# Лёс сіямскіх блізнятак

*Гэтая сумная гісторыя пачалася ў 1950 годзе, калі Кацярына Крывашляпава нарадзіла Машу і Дашу – сіямскіх блізнятак. Бацька немаўлятак, Міхаіл Крывашляпаў, быў асабістым шафёрам Лаўрэнція Берыі, кіраўніка ўсіх рэпрэсіўных органаў сталінскага рэжыму.*

Прыкметнае становішча Берыі, які да таго ж уваходзіў у склад Палітбюро, распаўсюджвалася і на яго шафёра. Таму нараджэнне сіямскіх блізнятак у сям'і, блізкай да знакаў вай наменклатуры, мусіла стаць таямніцай.

І стала. Толькі пасля распаду СССР сёстры Крывашляпавы здолелі выйсці з цемры невядомасці. У 1997 годзе брытанская журналістка Джульет Батлер пачала пісаць кнігу пра лёс Машы і Дашы, – вельмі прыкры лёс.

## Хлусня для маці

Ачуняўшы пасля цяжкіх родаў, якія скончыліся кесаравым сячэннем, Кацярына Крывашляпава пачула ад доктара: «Вашы дзеці нарадзіліся мёртвымі». Але яна была ўпэўненая, што чула крыкі сваіх дачок.

Адна з медсёстраў зліталася з беднай маці, і праз два тыдні пасля родаў ёй удалося тайна правесці Кацярыну да інкубатара, дзе ляжалі сёстры-блізняткі. Маці ўбачыла два дзіцячыя цельцы, якія зрасліся сцёгнамі і мелі агульную трэцюю нагу. Дзяўчаткі ляжалі галовамі ў розныя бакі. Жанчына ад гэтага жахлівага відовішча кранулася розумам, і яе забралі ў адну з маскоўскіх псіхіятрычных лякарняў.

## Бацькава хлусня

У гэты час Міхаіл Крывашляпаў пад ціскам кіраўніцтва падпісаў сфальсіфікаваны акт пра смерць сваіх дачок і болей ніколі нічога не хацеў пра іх ведаць. Праз два гады лячэння ў псіхіятрычным цэнтры Кацярыну выпусцілі, і яна занялася пошукам дачок, але ў радзільным доме ей адказалі, што яны памерлі. Міхаіл захоўваў сваю тайну нават пасля расстрэлу Берыі ў 1953 годзе. Асабісты шафёр сталінскага інквізітара памёр ад раку ў 1980 годзе і так ніколі і не прызнаў, што дзве ягоныя дачкі, можа, яшчэ жывыя.

## Навуковая цікавасць

Здарылася так, што сясцёр прызналі *rara avis* (рэдкасцю), якая мае паслужыць навуцы. Маша і Даша, якія цярпелі на *dicephales tetrabrachius dipus* (лацінская назва феномену блізнятак, якія маюць дзве галавы, чатыры рукі і дзве нагі), уяўлялі сабой надзвычай рэдкі аб'ект, цікавы для спецыялістаў, якія займаюцца анамаліямі развіцця.

Біярытмы сясцёр-блізнятак супадаюць гэтак дакладна, што яны бачаць аднолькавыя сны і пакутуюць ад адных і тых жа хваравітых адчуванняў. Мозг кожнай з сясцёр кантралюе толькі адну нагу. «Шмат хто ўспрымае нас як аднаго чалавека, але мы розныя людзі. У нас два пашпарты і дзве медычныя карты», – сцвярджаюць Крывашляпавы.

Адразу пасля нараджэння Маша і Даша патрапілі ў Інстытут педыятрыі АН СССР. Там іх на працягу сямі гадоў вывучаў знакаміты фізіёлаг Пётр Анохін. Да Машы і Дашы ставіліся не лепш, чым да марскіх свінак, над якімі праводзіліся фізіялагічныя эксперыменты. Крывашляпавы расказвалі, што аднойчы іх спецыяльна пасадзілі на лёд, пасля чаго адна з іх захварэла на запаленне лёгкіх.

Наступным медычным пунктам стаў Цэнтральны навукова-даследчыцкі інстытут траўматалогіі і артапедыі, дзе ім ампутавалі трэцюю нагу, каб «яна, – як прызналіся сёстры ў адным інтэрв'ю, якое далі ў эпоху галоснасці ў 1989 годзе, – не прыцягвала да сябе ўвагі». Там дзяўчатак навучылі хадзіць на мыліцах і далі пачатковую адукацыю. Гэта быў найлепшы перыяд у іхным жыцці.

## Сярод аднагодкаў

У 1964 годзе сясцёр перавезлі ў інтэрнат для дзяцей з праблемамі маторыкі ў горад Новачаркаск. Тут яны правялі свае самыя цяжкія гады і перажылі самыя змрочныя пачуцці: да іх ставіліся як да фізічна і разумова непаўнавартасных (менавіта дактары гэтага медычнага інтэрнату пераканалі дзяўчатак, што іх маці памерла пры родах), а ўсе астатнія дзеці, якіх трымалі ў гэтай установе, ставіліся да сясцёр са шчырай пагардай і кпілі з іх няшчасця. Медычны персанал ніяк не зважаў на хранічны нефрыт, ад якога цярпелі абедзве дзяўчынкі. «Іх цікавіла толькі тое, што мы сіямскія блізняткі, але абсалютна не хвалявалі наш боль і нашыя перажыванні», – узгадваюць Маша і Даша.

## На зломе веку

Сёстры, якім абрыдла такое жыццё, у 1970 годзе ўцяклі з гэтага інтэрнату ў Маскву, дзе здолелі ўладкавацца ў прытулак для старых. Цяпер яны знайшлі сабе суцеху ў алкаголі. «Мы п'ем, бо разумеем, наколькі мы жахлівыя», – тлумачаць яны. Хворыя на мноства хваробаў, Маша і Даша чакаюць таго дня, калі смерць дасць ім спакой.

**El Mundo**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук, г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3. Заказ № 1161
Нумар падпісаны ў друк 27/06/2002 (12:00) Наклад – 6.830